

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

АРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 9 лютага 1990 г. № 6 (3520) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**

## М. С. ГАРБАЧОЎ:

# «Наш ідэал — гуманны, дэмакратычны сацыялізм»

5—7 лютага ў Маскве адбыўся чарговы Пленум ЦК КПСС. З дакладам «Аб праекце платформы ЦК КПСС да XXVIII з'езда партыі» на Пленуме выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.

Галоўнае, што хвалюе сёння камуністаў і ўсіх грамадзян краіны, падкрэсліваецца ў самым пачатку даклада,— гэта лёс перабудовы, лёс краіны і роля КПСС на цяперашнім, напэўна, самым адказным этапе рэвалюцыйных пераўтварэнняў.

Ацаніўшы сітуацыю, разгледзеўшы звароты камуністаў і партыйных арганізацый, сказаў далей М. С. Гарбачоў, Палітбюро вынесла прапанову: правесці XXVIII з'езд КПСС у канцы чэрвеня — пачатку ліпеня гэтага года.

Можна сказаць, што падрыхтоўка да з'езда ўступае ў вырашальную фазу. Мы павінны добра зразумець, у які час жывём, якія задачы вырашаем, надаць праектам платформы новую дынаміку нашай барацьбе, гаворыцца ў дакладзе.

Карэннае пытанне абнаўлення партыі, сказаў М. С. Гарбачоў,— неабходнасць ачысціцца ад усяго, што яе звязвала з аўтарытарна-бюракратычнай сістэмай. У платформе гаворыцца: **наш ідэал — гэта гуманны, дэмакратычны сацыялізм.**

Партыя, па словах Генеральнага сакратара ЦК, можа існаваць і выконваць сваю ролю авангарда толькі як дэмакратычна прызнаная сіла. Гэта азначае, што яе становішча не павінна навязвацца шляхам канстытуцыйнага ўзаконення.

Працэс нарастання палітычнага плюралізму можа прывесці да стварэння на нейкім этапе і партый. КПСС гатова дзейнічаць з улікам гэтых новых абставін, супрацоўнічаць і весці дыялог з усімі арганізацыямі, якія стаяць на грунце Канстытуцыі СССР і замацаванага ў ёй грамадскага ладу.

Абнаўленне партыі патрабуе глыбокай, усеахопнай яе дэмакратызацыі, пераасэнсавання прынцыпу дэмакратычнага цэнтралізму з акцэнтам на дэмакратызм, уладу партыйных мас.

Мы, гаворыцца ў дакладзе, ставім задачу крок за крокам ажыццяўляць прынцып сацыяльнай справядлівасці, адвяргаючы розныя ідэалагічныя табу, выкарыстоўваючы ўсё каштоўнае, што ёсць у іншых грамадствах, у іх эканоміцы і сацыяльнай сферы, палітычным жыцці, арганізацыі вытворчасці і побыту, навуцы і тэхніцы, духоўнай і інтэлектуальнай творчасці.

Зараз разгарнуўся другі этап палітычнай рэформы, які ахоплівае фарміраванне органаў улады ў рэспубліках і на месцах. Пачынаюць вымалёўвацца рэальныя контуры новай савецкай федэрацыі. Па сутнасці справы, утвараюцца новыя формы ўсяго нашага палітычнага, эканамічнага і грамадскага жыцця, з новай сістэмай органаў улады, для якой характэрны глыбокая дэмакратызацыя і прынцыпы самакіравання.

У гэтых умовах краевугольная ідэя перабудовы самой партыі — у сцвярджэнні ўлады партыйных мас. Як падкрэсліваецца ў дакладзе М. С. Гарбачова, уздзеянне камуністаў на работу вышэйстаячых органаў, уключна да ЦК, у вырашальнай ступені залежыць ад таго, наколькі рэальна будзе забяспечана ім магчымасць пасылаць у гэтыя органы тых, каму яны давяраюць, сапраўдных лідэраў, актыўных прыхільнікаў перабудовы.

Сэнс прапаноў адносна структуры вышэйшых партыйных інстанцый, змешчаных у праекце платформы ЦК КПСС,—узмацніць фактар дэмакратызму ў вярхах партыі, кіруючых яе звеннях, сказаў М. С. Гарбачоў.

У заключэнне Генеральны сакратар ЦК КПСС выказаў спадзяванне, што сумеснымі намаганнямі будзе выпрацаваны дакумент, які адкажа на пытанні, што хвалююць камуністаў, усіх савецкіх людзей. Тым самым, падкрэсліваецца ў дакладзе на Пленуме Цэнтральнага Камітэта КПСС, перабудовачныя працэсы атрымаюць новы магутны пазітыўны імпульс.

**НА ТЭМУ ДНЯ**

# ХАЙ РАЗВАЖЫЦЬ ЖЫЦЦЁ...

У канцы мінулага года мне давялося пабываць на Устаноўчым з'ездзе прадстаўнікоў сялянскіх гаспадарак Беларусі — фермераў, арандатараў, кааператараў. З розных куткоў рэспублікі з'ехаліся ў Мінск на свой першы форум людзі, якія асмеліліся кінуць выклік адміністрацыйна-каманднай сістэме, разарваць яе жалезныя путы, выбавіцца з безлічы яе блытаных-пераблытаных сецяў і гаспадарыць самастойна, без чыіх бы там ні было «каштоўных указанняў».

Здавалася б, кіраўніцтва рэспублікі, якое ўзяло на сябе клопат аб павышэнні народнага дабрабыту, якое на словах прызнала неабходнасць хутчэйшага пераходу на эканамічныя метады гаспадарання, павінна было б толькі вітаць сялянскі з'езд, усяляк падтрымліваць самастойных гаспадароў.

Але, на мае вялікае здзіўленне, гэтага не адбылося. На Устаноўчым з'ездзе сялянскіх гаспадарак я не ўбачыў ніводнага з работнікаў ЦК КПБ. Поўнае ігнараванне! Праўда, на з'ездзе выступілі два прадстаўнікі з Белдзяржаграпрома. Ды замест падтрымкі беларускіх сялян-гаспадароў яны аднaзначна выказаліся супроць стварэння ў цяперашні час Саюза сялянскіх гаспадарак. Пры гэтым аграпрамоўцы ўсяляк расхвальвалі калгасна-саўгасную сістэму, з мноствам «пераканаўчых» лічбаў у руках імкнучыся даказаць яе перавагу над іншымі формамі гаспадарання.

З іх выступленняў я зразумеў, што ў Беларусі ў наладжванні сельскай гаспадаркі робіцца стаўка толькі на калгасы і саўгасы. І не дзіва, што ў нас самастойных сялянскіх гаспадарак, як адзначалася на з'ездзе, набіраецца ўсяго недзе каля дзвюх сотняў, у той час, як у маленькай Латвіі, напрыклад, іх не адна і не дзве тысячы.

Тое, што за шэсцьдзесят гадоў свайго існавання калгасная сістэма давяла сельскую гаспадарку да развалу, яе апалагеты растлумачваюць дробязнай апекай над калгасамі зверху, залішняй рэгламентацыяй іх дзейнасці, адсутнасцю самастойнасці і г. д.

Што ж, усё гэта вельмі правільна. Як правільна і тое, што калі будзе цалкам знята гэтая апека, калі калгасы і саўгасы атрымаюць поўную эканамічную свабоду, яны сапраўды змогуць у поўнай меры праявіць усе свае магчымасці. Я думаю, гэта, можа, будзе нават узлёт калгаснай сістэмы, яе росквіт.

Але ён, гэты ўзлёт, гэты росквіт, будзе адносны, часовы і яшчэ больш паглыбіць крызіс, загоніць невылечную хваробу ўнутр. Хвароба гэтая закладзена ў самой арганізацыйнай форме калгасаў і саўгасаў, заснаванай на камандаванні і падначаленні. Па сутнасці, калгас—гэта мадэль адміністрацыйна-каманднай сістэмы, яе параджэнне.

Што такое даць самастойнасць калгасам? На практыцы — гэта даць самастойнасць толькі кіраўнікам. Усе ж астатнія члены калгаса зноў застануцца выканаўцамі каманд свайго кіраўніцтва,—старшыні, брыгадзіраў, аграномаў і г. д. Падначаленасць свайго становішча калгаснік будзе адчуваць, хай і ў меншай ступені, пры любой форме ўнутрыгаспадарчай арэнды, гаспадарчага разліку. Усё роўна ён будзе звязаны мноствам ніцей са сваім кіраўніцтвам, усё роўна ён застанецца наёмным работнікам у калгасе, усё роўна ён не зробіцца сапраўдным гаспадаром на зямлі.

Разам з тым роспуск калгасаў і саўгасаў, «раскалектывізацыя» была б такой жа самай згубнай, як і калектывізацыя. Калгасы і саўгасы—гэта сённяшняя наша рэальнасць. А з рэальнасцю трэба лічыцца. «Распускаць» зверху калгас — гэта валюнтарызм, які ні да чаго добрага ніколі не прыводзіў. Але такі ж самы валюнтарызм—перашкаджаць выхаду з калгаса любога яго члена, выхаду, вядома, з зямлёй і пэўнай доляй маёмасці.

Сёння вядуцца гарачыя спрэчкі прыхільнікаў калгаснай сістэмы з яе рашучымі праціўнікамі. Хацелася б абодвум бакам сказаць адно: давайце дадзім прастор і волю для развіцця як калгасаў, так і для іншых формаў гаспадарання на зямлі, паставім іх у аднолькавыя ўмовы—і хай яны спрачаюцца не на словах, а ў жыцці, хай само гэтае жыццё разважыць, на чым баку праўда. Якраз многаўкладнасць, як мне здаецца, — адзіна правільны шлях, які можа вывесці нашу сельскую гаспадарку з глыбокага крызісу. Рабіць стаўку толькі на калгасы і саўгасы, пагарджаць іншымі формамі гаспадарання, адсоўваючы іх на задні план,—лічу вялікай памылкай, якую будзе потым вельмі нялёгка выправіць.

Кастусь ЦВІРКА.

# *Выбарчы клуб «ЛіМа»*

# ІНЦЫДЭНТ ВЫЧАРПАНЫ?

**Замалёўкі з натуры**

...Сеў за машынку, каб занатаваць некаторыя свае назіранні за ходам передвыбарчай кампаніі, а ў гэты час па радыё — справаздача аб прэс-канферэнцыі па выніках Пленума ЦК КПСС. Пра што ідзе гаворка? Пра тое, што на бліжэйшай сесіі Вярхоўнага Савета краіны партыя ў якасці заканадаўчай ініцыятывы прапануе скасаваць шосты артыкул Канстытуцыі СССР... Пра інстытут прэзідэнцкай улады... Пра падрыхтоўку да XXVIII з'езда КПСС... Пра магчымасць шматпартыйнай сістэмы...

Апошнім часам усе гэтыя праблемы горача дыскутуюцца. Партыйны форум сфармуляваў сваю пазіцыю, якая таксама будзе абмяркоўвацца грамадствам. І можна не сумнявацца, што прынятыя палітычныя рашэнні, нягледзячы на іх уплывовасць, выявяць шырокі спектр думак. Паспрабую прадказаць некаторыя ацэнкі: новы крок на шляху дэмакратызацыі; «перахопліванне» ініцыятывы; здрада «прынцыпам»; прызнанне рэалій жыцця...

Разам з тым, відавочна, што у краіне ўтвараецца новая грамадска-палітычная сітуацыя, якая не можа не паўплываць (прытым, самым актыўным чынам) на тое, чым жыве сёння і наша рэспубліка. А менавіта — на падрыхтоўку да выбараў. Нейкія карэктывы ў свае перадвыбарчыя платформы мусяць уносіць і КПБ, і БНФ...

**Завяршыліся** першыя два этапы кампаніі. Важныя, але шмат у чым сумбурныя. Ва ўсялякім разе, нам, журналістам, было вельмі няпроста здабываць дакладную і аператыўную інфармацыю. Вылучылі — не вылучылі? Зарэгістравалі — не зарэгістравалі?

Нямала было і накладак, недарэчнасцей. Часам прыкрых, часам — смешных. Усё гэта, безумоўна, вопыт, але нават самы заўзяты аптыміст наўрад ці назаве яго каштоўным.

Вось некалькі гісторый. Мяркуйце самі...

**Адну з іх расказаў празаік Уладзімір Арлоў. Атрымалася так, што яго папрасілі завезці ў Мінск і ўручыць Цэнтральнай выбарчай камісіі ліст-пратэст супраць парушэнняў, якія адбыліся пад час аднаго са сходаў па вылучэнню кандыдата ў народныя дэпутаты.**

**— Дзякуючы гэтай місіі, — гаворыць У. Арлоў, — я ўпершыню ў жыцці пераступіў парог Дома палітасветы, дзе месціцца паважаная камісія. Не паспеўшы ацаніць веліч і выгоды (асабліва ў параўнанні з паказанымі нядаўна ў тэлепраграме «Погляд» палатамі нашага дзіцячага гематалагічнага цэнтра) гэтага гмаху, у якім адбываецца таемства палітасветы, я сустрэў двух маладых людзей з павязкамі дружыннікаў. Высветліўшы, што я не з'яўляюся дэлегатам абласной камсамольскай канферэнцыі, якую ў той дзень прытуліў гэты дом, дружыннікі падказалі мне, дзе шукаць ЦВК... Вось нарэшце і пакой 109 — прыёмная памянёнай камісіі. Трое ўсмешлівых мужчын, пачуўшы просьбу зарэгістраваць ліст, ветліва раяць прайсці ў пакой 317. На ім шыльдачка: «Група па рабоце з пісьмамі». Вось зараз, думаю, з лістом правядуць адпаведную работу, і я апраўдаю давер сваіх таварышаў... Кансультант ЦВК Дзмітрый Раманавіч Васкевіч правесці работу з лістом выбаршчыкаў быў нібыта і не супраць. Але спачатку ліст трэба зарэгістраваць, а тэхнічнага супрацоўніка, які за гэта адказвае, няма і сёння не будзе. Між тым, быў трэці дзень пасля сходу, апошні, калі можна абскардзіць ягоныя вынікі...**

**Пасля свецкай гутаркі з кансультантам (пісьменніку асабліва запомнілася фраза: «А вы, судя по разговору, человек грамотный!»), У. Арлову давялося пайсці з Дома палітасветы (таксама не без прыгод) і прагуляцца з лістом да бліжэйшай паштовай скрынкі.**

Што тут скажаш... Відаць, толькі гумар і, у прыватнасці, іронія дазваляюць нашаму чалавеку суіснаваць з бюракратычнай сістэмай на больш-менш парытэтных пачатках.

Другая гісторыя — з уласнага вопыту. Мяне, «Ганчарова Андрэя Уладзіміравіча, 1961 года нараджэння, адукацыя вышэйшая, беспартыйнага, адказнага сакратара газеты «Літаратура і мастацтва» (цытую пратакол), канферэнцыя працоўнага калектыву выдавецтва «Полымя», ў прысутнасці старшыні Старажоўскай акруговай выбарчай камісіі Няхая Рыгора Савельевіча, вылучыла кандыдатам у дэпутаты Мінскага гарсавета.

Праз нейкі час мяне запрасілі на працэдуру рэгістрацыі. Прыйшоў, прад'явіў пашпарт, прадаставіў спіс даверанных асоб... Пасяджэнне камісіі пачалося. Кандыдатуры разглядаліся ў алфавітным парадку, дайшла чарга і да маёй літары. Як паведаміў старшынствуючы, акруговая камісія, пасля адпаведнай праверкі, прызнала канферэнцыю, дзе адбывалася вылучэнне, правамоцнай, пратакол — належным чынам афармленым і, у прынцыпе, не бачыць перашкод для маёй рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў народныя дэпутаты...

Было б няпраўдай сказаць, што да гэтага часу я нічога не западозрыў. Ну, напрыклад, насцярожыла тое, што да мяне (у алфавітным парадку!) рэгістрацыю прайшлі ўжо і публіцыст Яўген Будзінас, і мітрапаліт Філарэт (Вахрамееў), і іншыя таварышы, вылучаныя кандыдатамі... у народныя дэпутаты БССР. Але ж мяне чамусьці запрасілі менавіта сюды! І хіба не роўныя ў нас народныя дэпутаты ўсіх узроўняў?!

Між тым, пачалі задаваць пытанні. Ці ведаю я выбарчае заканадаўства і тое, напрыклад, што праграма кандыдата не павінна ўтрымліваць антыканстытуцыйных палажэнняў? Ведаю, адказваю... Далей гаворка зайшла аб тым, як найлепш арганізаваць перадвыбарчую агітацыю: каб, з аднаго боку, паставіць усіх кандыдатаў у роўныя ўмовы, а з другога — забяспечыць максімальнае выяўленне іх праграм і поглядаў. У прыватнасці, што мог бы дзеля гэтага зрабіць «ЛіМ»? А можа, я збіраюся выкарыстоўваць газету толькі ва ўласных інтарэсах? Не, кажу я, гэта было б не этычна. Але, працягваю, пад час перадвыбарчай барацьбы наша газета не можа не звярнуць увагу на акругу, дзе на дэпутацкі мандат прэтэндуе ажно дзевятнаццаць кандыдатаў. А што тычыцца ўласных інтарэсаў, дык іх у дадзеным выпадку няма, бо я ж збіраюся балаціравацца ў **гарсавет.**

Далей была нямая сцэна... Пакуль доўжылася паўза, старшыня ўважліва прачытаў мае дакументы. Не ведаю, што ён пры гэтым падумаў, але дакладна ведаю, што ў тэксце пратакола, які займае паўстаронкі машынапісу, словазлучэнне «кандыдат у народныя дэпутаты гарадского Савета» паўтараецца тройчы!

Памылка ў пратаколе, вядома, была. Замест Старажоўскай выбарчай акругі № 47 трэба было пазначыць — Інтэрнацыянальная № 239. Але што адсюль вынікае? «Что за комиссия, создатель!»

Я і раней ведаў, што язык мой — вораг мой. Але хіба мог падумаць, што гэта праявіцца літаральна за некалькі хвілін да маёй рэгістрацыі ў якасці народнага дэпутата Беларускай ССР? А таму — больш ні слова пра гэтую гісторыю.

**На мінулым тыдні** здарыўся інцыдэнт, які прымусіў многіх устрывожыцца за дэмакратычнасць выбараў у беларускі парламент. Маецца на ўвазе пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, дзе тлумачылася, што кандыдаты ў народныя дэпутаты, вылучаныя ад рэгіянальных аддзяленняў Таварыства беларускай мовы, Беларускага экалагічнага саюза і Таварыства спажыўцоў могуць быць зарэгістраваны толькі ў тым выпадку, калі названыя арганізацыі ва ўстаноўленым парадку ўтвораны і зарэгістраваны ў адпаведным выканаўчым камітэце, прычым, да пачатку тэрміну вылучэння кандыдатаў.

**Няма патрэбы яшчэ раз характарызаваць гэты дакумент. Гісторыя з ім атрымала шырокі розгалас, выступаў з гэтай нагоды і «ЛіМ», змясціўшы ў мінулым нумары лісты прадстаўнікоў ТБМ і БЭСа. Хацелася б, праўда, дадаць яшчэ адзін штрых. 27 студзеня ў «Известиях» было змешчана інтэрв'ю сакратара Цэнтральнай выбарчай камісіі І. В. Ліхача, дзе быў такі сказ: «Асабліва актыўнымі былі (пад час вылучэння кандыдатаў. — А. Г.) Таварыства беларускай мовы, Беларускі экалагічны саюз, Саюз кааператараў...». Атрымліваецца, што ў цэнтральным друку як станоўчая была адзначана ініцыятыва менавіта тых арганізацый, якія за два дні да выхаду газеты (пастанова, як вядома, была прынята 25 студзеня), па сутнасці, сілавым прыёмам выбіваліся з перадвыбарчай барацьбы.**

1 лютага адбыўся надзвычайны сход прадстаўнікоў рэспубліканскай, Мінскай гарадской, раённых радаў ТБМ сумесна з прадстаўнікамі БЭСа. У прынятай на сходзе рэзалюцыі, сярод іншага, было выказана патрабаванне адмяніць згаданую пастанову. Калі б гэтага не было зроблена да 2 лютага, ТБМ і БЭС пакідалі за сабой, цытую, «права склікаць надзвычайныя з'езды сваіх арганізацый і непасрэдна звярнуцца да беларускага народа з пытаннем аб даверы Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР».

Калі рыхтаваўся гэты нумар, у рэспубліканскай радзе ТБМ нас пазнаёмілі з новай пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, датаванай 2 лютага:

**«Президиум Верховного Совета Белорусской ССР постановляет:**

**Во изменение постановления Президиума Верховного Совета Белорусской ССР от 25 января 1990 года... разъяснить, что окружные (территориальные) избирательные комиссии имеют право регистрировать кандидатов в народные депутаты Белорусской ССР, народные депутаты местных Советов народных депутатов Белорусской ССР, выдвинутых областными, районными, городскими, районными в городах органами Общества потребителей Белорусской ССР, Белорусского экологического союза, Общества белорусского языка имени Ф. Скорины, лишь в том случае, если указанные органы созданы и зарегистрированы в порядке, установленном уставами этих общественных организаций».**

Як кажуць, інцыдэнт вычарпаны. Я ўзнавіў хроніку падзей некалькіх дзён мінулага тыдня не дзеля таго, каб падкрэсліць іх надзвычайны, нават ультыматыўны характар. На сумесным сходзе ТБМ і БЭСа падумалася вось пра што: чалавек, згуртаванне людзей сёння можа шмат чаго зрабіць і шмат чаго не дапусціць. Калі, вядома, усвядоміць уласную значнасць і годнасць.

Перадвыбарчая барацьба працягваецца...

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**




# ЗА ЗДАРОВАЕ ЖЫЦЦЁ ДЛЯ НАС І НАШЫХ НАШЧАДКАЎ

**Передвыбарчая платформа Беларускага экалагічнага саюза**

**Засыхаючыя дрэвы каля прамысловых цэнтраў і аўтамагістраляў, рост захворванняў сярод насельніцтва, мялеючыя рэкі сведчаць аб тым, што рэспубліка рухаецца да экалагічнай катастрофы, якой спадарожнічаюць эканамічны і маральны тупік. Будучыня нацыі — яе генафонд, здароўе нашчадкаў пастаўлена пад пагрозу. Перш за ўсё ў сувязі з чарнобыльскай катастрофай, вынікі якой у значнай ступені абцяжараны неспрыяльнай экалагічнай абстаноўкай. Усё гэта стала магчымым у выніку грубых пралікаў у развіцці прамысловасці, транспарту і сельскай гаспадаркі, як вынік грэбавання маральнымі нормамі, законамі эканомікі экалогіі, а то і наогул здаровым сэнсам ва ўгоду хуткасным эфектам і палітычным лозунгам.**

**Беларускі экалагічны саюз зыходзіць з таго, што толькі фізічна і духоўна здаровы народ, які жыве ў здаровым і натуральным прыродным асяроддзі, у стане плённа рашаць эканамічныя і палітычныя задачы, будаваць агульны дом — новую дэмакратычную дзяржаву.**

**Ад нас, ад нашай актыўнасці, нашай свядомасці і адказнасці залежыць, хто ад нашага імя будзе прымаць рашэнні ў Саветах усіх узроўняў на працягу бліжэйшых пяці гадоў. Ад нашага выбару залежыць лёс перабудовы, наш дабрабыт і наша будучыня.**

**Беларускі экалагічны саюз лічыць, што для радыкальнага аздараўлення экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы НЕАБХОДНА:**

1. **Заклік «Уся ўлада — Саветам» зрабіць нормай жыцця грамадства, забяспечанай канстытуцыйнымі і эканамічнымі гарантыямі.** Прывесці Канстытуцыю БССР у адпаведнасць з асноўнымі прынцыпамі Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і другімі міжнароднымі актамі.

2. **Забяспечыць поўнае выкананне Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС з пераглядам тэрмінаў правядзення мерапрыемстваў у бок іх максімальнага паскарэння.** Рэалізацыя праграмы павінна быць пачата неадкладна, без чакання яе ўхвалення ў Маскве, на першых этапах нават за кошт унутраных рэзерваў і скарачэння рэспубліканскіх адлічэнняў у саюзны бюджэт. Неабходна таксама звярнуцца па дапамогу да сусветнага супольніцтва. Рэалізацыя праграмы не здымае пытання аб кампенсацыі з боку галоўнага віноўніка трагедыі — Мінатамэнерга СССР.

Перадаць для вырашэння Вярхоўным Саветам БССР пытанні адсялення грамадзян з забруджаных радыенуклідамі раёнаў. Пры наяўнасці жадання грамадзян практыкаваць перасяленне не толькі ў межах Магілёўскай і Гомельскай абласцей, але і ў іншыя раёны рэспублікі. Стварыць у БССР Нацыянальны камітэт па радыяцыйнай бяспецы. Для каардынацыі пытанняў, звязаных з выкананнем мерапрыемстваў, прадугледжаных Дзяржаўнай праграмай, стварыць пры Вярхоўным Савеце БССР спецыяльны орган — Камітэт нацыянальнага выратавання з шырокім прадстаўніцтвам дзяржаўных устаноў, народных дэпутатаў, розных грамадскіх арганізацый БССР.

Улічваючы шырокае распаўсюджванне радыяфобіі, як выніка чарнобыльскай катастрофы і ўтойвання звязанай з ёй інфармацыі, а таксама ў адпаведнасці з агульнай у свеце тэндэнцыяй да дэмілітарызацыі, **абвясціць Беларусь зонай, свабоднай ад ядзернай зброі і ядзерных электрастанцый.**

3. **Распрацаваць экалагічнае заканадаўства Беларускай ССР. Прыняць Закон аб праве грамадзян на поўную і праўдзівую інфармацыю аб стане навакольнага асяроддзя і якасці харчовых прадуктаў.** Прыняць законы аб экалагічнай экспертызе, аб крымінальнай адказнасці за вытворчасць і продаж прадуктаў харчавання, што ўтрымліваюць радыенукліды, таксічныя і іншыя шкодныя для здароўя рэчывы. Увесці ў заканадаўства паняцце «экалагічнае злачынства». У заканадаўчым парадку ўвесці сістэму штрафаў і спагнанняў за прычыненую экалагічную страту. Увесці плату за спажыванне рэсурсаў і выкіды забруджваючых рэчываў.

4. **Падняць на дзяржаўны ўзровень пытанне аховы навакольнага асяроддзя, змяніўшы статус Дзяржкампрыроды БССР.** Стварыць Камітэт Вярхоўнага Савета па экалогіі. Ліквідаваць усе ведамасныя інспекцыі па кантролю за станам і выкарыстаннем асобных прыродных рэсурсаў з перадачай іх функцый, штатаў і фінансавых сродкаў Дзяржкампрыродзе БССР у новай якасці. Дазваляць будаўніцтва і рэканструкцыю прамысловых і сельскагаспадарчых аб'ектаў толькі пасля іх ухвалення Камітэтам па экалогіі Вярхоўнага Савета БССР.

5. **Неадкладна правесці незалежную экалагічную экспертызу і пашпартызацыю ўсіх дзеючых прадпрыемстваў і экспертызу планаў і праектаў народнай гаспадаркі.** Спыніць фінансаванне любых аб'ектаў, што не прайшлі такую экспертызу. З мэтай аздараўлення і стабілізацыі экалагічнай абстаноўкі ў рэспубліцы **абвясціць пяцігадовы мараторый на размяшчэнне новых і пашырэнне дзеючых прадпрыемстваў цяжкага і сярэдняга машынабудавання, хімічнай, электратэхнічнай і металургічнай прамысловасці і другіх экалагічна шкодных аб'ектаў.**

Пашыраць сетку малых, нетрадыцыйных і экалагічна чыстых формаў вытворчасці энергіі.

6. **Перадаць у поўнае распараджэнне рэспублікі яе прыродныя рэсурсы (лясы, зямлю, воды, нетры).** Ажыццяўленне дзяржаўнага кантролю за станам, выкарыстаннем, аховай лясоў, зямель, водаў і нетраў павінна быць у кампетэнцыі Вярхоўнага Савета БССР. Спыніць бескантрольнае растранжыраванне важнейшых рэсурсаў рэспублікі.

7. **Распрацаваць і ажыццявіць новую канцэпцыю экалагічнай адукацыі і выхавання ў рэспубліцы.** Выхаванне падрастаючага пакалення павінна грунтавацца на нормах агульначалавечай маралі, гуманізацыі і дэмілітарызацыі грамадскай думкі, усведамленні чалавека як часцінкі прыроды. На ўсіх узроўнях адукацыі незалежна ад спецыяльнасці павінна быць уведзена дысцыпліна «Экалогія».

**Беларускі экалагічны саюз абвяшчае, што яго члены будуць прымаць самы актыўны ўдзел у распрацоўцы і ажыццяўленні ўсіх мерапрыемстваў і задач сваёй перадвыбарчай платформы ў шчыльным кантакце з усімі зацікаўленымі грамадзянамі, арганізацыямі і органамі дзяржаўнай улады. Толькі ў гэтым — гарантыя поспеху.**

**ПРЭЗІДЫУМ БЕЛАРУСКАГА ЭКАЛАГІЧНАГА САЮЗА.**

## Расціслаў Янкоўскі:

# «Культура вызначыць наш лёс»

**Маналог кандыдата ў народныя дэпутаты БССР**



Хіба сёння можна куды падзецца ад палітыкі? Я страшэнна люблю працаваць, мне хочацца адчуваць сябе карысным людзям, мне прыемна бачыць іх задаволеныя твары і чуць падзякі. Таму, відаць, і стаў пяць гадоў назад дэпутатам...

Зразумела, маё колішняе вылучэнне *кандыдатам у дэпутаты* моцна адрознівалася ад сёлетняга. Усе мы ведаем, якімі «лёгкімі» былі некалі выбары, як галасавалі і што патрабавалася ад дэпутатаў у Вярхоўным Савеце: згода й лагода! Даклады нашы, як правіла, былі ўжо падрыхтаваныя, перапраўераныя. Можна б было, вядома, крыху адхіліцца ад паперы, закрануць нешта праблемнае, але пытанні, па якіх выступалі, былі ўжо вырашаныя—у прынцыпе. Таму я, як дэпутат, не мог быць творцам закона ці ўплываць на палітыку ўрада. Ад мяне мала што залежала.

Я працаваў у камісіі Вярхоўнага Савета БССР па культуры. І я, і мае калегі ставіліся да працы сумленна. Іншая справа, што камісія, з майго пункту гледжання, была сфарміравана непрафесійна: чалавек ад калгаса, ад прадпрыемства, ад установы, ад апарату, ад культуры... Паводле знакамітага наменклатурнага прынцыпу. Я паважаю сваю каляжанку па камісіі, сталага веку калгасніцу, але на пасяджэннях яна *пачувалася неяк* няўтульна, на кожным кроку адчувала сваю некампетэнтнасць. А вось за прыняцце закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы мы галасавалі разам. Гэта амаральна—нацыі губляць мову. Гэта амаральна—вялікую культуру дзесяцімільённага народа трымаць на жабрацкай датацыі і, фактычна, праграмаваць яе заняпад! Гэта амаральна—мірываць: тут і тут—па-беларуску, а там і там — па-руску... Урэшце я і сябе лічу пэўным чынам абрабаваным, бо, разумеючы збольшага па-беларуску, не магу размаўляць складна і прыгожа. Праўда, баюся аднаго: штучнага прыспешвання ў вывучэнні беларускай мовы. З самых лепшых памкненняў гарачыя галовы могуць сапсаваць важную справу. Будзем рэалістамі. Зважым на вопыт суседзяў з Прыбалтыкі, возьмем ад іх лепшае—з закона аб дзяржаўнасці мовы. Нададзім прэстыжу мове, зробім яе перспектыўнаю. Усвядомім вяртанне да мовы як аднаўленне нацыянальнай культуры беларусаў, а яе трэба аднаўляць беражліва, цярпліва, рупна. Я ўвогуле стаю за тое, каб арыентавацца на лепшыя сусветныя здабыткі ў гэтай справе. Я стаю на тым, каб увайсці ў кантэкст сусвету, зважаць на тое, што мы, жыхары Беларусі, рыхтуемся ў суседзі да народаў агульнаеўрапейскага дома.

Але вось парадокс. Усе сумленныя людзі краіны зараз, натуральна, супраць таталітарнага рэжыму і каманда-адміністрацыйнай сістэмы. Ды на Беларусі яе доўга прадстаўлялі досыць сумленныя людзі і неблагія гаспадары: Панамарэнка, Патолічаў, Мазураў, Машэраў. Гэта дзякуючы іх намаганням мы жывём з хлебам і часцяком—з мясам. Яны пэўным чынам збалансавалі гаспадарку, яны па-свойму заахвоцілі і падтрымалі працавітых людзей. І потым... гістарычная абранасць Беларусі як краю адвеку розназтнічнага і гранічна талерантнага, вельмі добразычлівага і—культурнага! Таму мы і зараз неяк трымаемся, хоць з прыкрасцю канстатуем: дзень пры дні ці не горай... І можам пратрымацца яшчэ тры, пяць гадоў, ды сённяшні наш эканамічны і палітычны стан—тупіковы. Гэткі сацыялізм, які штучна «перамог» у адным, узятым паасобку, рэгіёне ці ў адным, узятым паасобку, калгасе...

Мяне надзвычай хвалюе пытанне—як тутэйшаму чалавеку адчуць сябе нацыянальна прыналежным? Якім чынам зрабіць, каб мова і культура крэўна былі яму неабходныя? Як людскую абыякавасцьператварыць у зацікаўленасць? Над гэтым я разважаю даўно. І прыйшоў да высновы, што ўсё — Радзіма, нацыя, мова—пачынаецца з культуры. Не буду спрачацца з Марксам, але хіба безагаворачна быццё вызначае свядомасць? Як па мне, дык куды часцей наадварот: свядомасць кіруе быццём, свядомасць праграмуе быццё, свядомасць пераўтварае быццё! Яшчэ Бярдзяеў сказаў, што свабода — не для дэмакратыі, свабода — для арыстакратыі, маючы на ўвазе, вядома, арыстакратыю духу. Тых, што ўсведамляюць свае карані, далікатныя ў абыходжанні, цярплівыя, талерантныя... культурныя.

Культурныя! Мне здаецца, што менавіта гэтага слова старанна ўнікаюць на нашых сесійных пасяджэннях. Менавіта гэтае слова ніяк не навучыцца вымаўляць урад рэспублікі. З культураю не ўсё так проста: справа не толькі ў тым, што доўга пагарджалі беларускаю моваю. Справа, напрыклад, у тых трактарах, якія мы вырабляем і якія не хочуць купляць з-за недаробак; у жудасных дзіцячых цацках—дзеці іх баяцца, а то і церпяць ад атрутных рэчываў, што ўваходзяць у склад гумы ці пластмасы; справа ў крохкім асфальце, па якім немагчыма ездзіць, у чэргах, што апанавалі нас паўсюдна, у хамстве, якое прычакала нас на кожным кроку, у азлобленасці адзін на аднаго і на ўвесь свет—быццам ён вінаваты ў тым, што жыве лепш за нас... Магчыма, культура пачынаецца *з добразычлівасці*, дарэчы, уласцівай тутэйшым людзям. Мне цяжка вінаваціць людзей у іхняй недасканаласці, людзей, якія ў жыцці ведаюць толькі працу і чэргі, раз на год — тэатр...

Я магу разважаць пра культуру колькі заўгодна, ды калі не супакоіць народ, не даць яму *прававых і сацыяльных* гарантый—не ў двухтысячным годзе, а заўтра, паслязаўтра, праз год — культуры мы не набудзем. Пакіну эканоміку эканамістам, але я, артыст, інтуітыўна ведаю, калі зараз не займацца тэатрам, калі заўтра не даць шанцу мове і не надаць павагі мастацтву, дык у двухтысячным годзе мыла можа і не спатрэбіцца: бо забудземся мыцца. Культура ўключае ў сябе і мыла, і тэатр...

Існуючы ўзровень культуры міжнацыянальных адносін, на маю думку, не давядзе Беларусь да краю. Я жыву ў Мінску трыццаць тры гады і, мяркую, ведаю прадмет гутаркі. Карані мае з Беларусі: бацька — апалячаны беларус. Маці—руская, рускім лічу сябе і я, бо гадаваўся ў Расіі, з маленства ўвабраў у сябе рускую культуру. Тата вельмі *мала* пабыў з намі, яго стольки разоў садзілі... Былы гвардзейскі афіцэр Сямёнаўскага палка. Са шляхты. Мама—руская дваранка з Астрахані. Бабуля—з Сімбірска, дзе жыла некалі побач з Ульянавымі, добра іх памятала, мела з імі агульных знаёмых. Мая жонка—грузінка, унук любіць свайго рускага тату і маму, па паходжанні немку... І гэта так цудоўна перамешана, так прыгожа ўвасоблена прыродаю, так непарушна! Дадам, што ўся наша шматнацыянальная *сям'я падтрымала* маё дэпутацкае рашэнне аддаць свой голас за дзяржаўнасць беларускай мовы.

Культура тэатра... У маім, Рускім тэатры БССР, лічу, зберглося галоўнае: павага да каранёў, іх усведамленне... Нават калі высветлілася, што акцёр у нашай краіне — адна з самых непаважаных прафесій, тэатр не пазбыўся той далікатнай акцёрскай культуры, якая дзесяцігоддзі пеставалася і гадавалася ў ім. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы існавання. Даруйце, *але што гэта за гро*шы выдаткуюцца ў нас на культуру? Што гэта за грошы атрымліваюць акцёры, нават я, народны артыст СССР, —утрая меней за інструктара райкома? Як жа так? Не думаю, што ягоную і маю працу можна параўнаць.

Не, я зусім не супраць партыйных работнікаў, але калі ў краіне цяжкасці, дык давайце перажываць гэтыя цяжкасці разам! А інакш—які да гэтых работнікаў давер? Я не магу зразумець логікі апарату пры ўсім сваім жаданні. Мае выбаршчыкі пытаюцца, я ім шчыра адказваю, што не разумею. Культура—на жабрацкай датацыі, а апарат павышае сабе аклады... І, *нарэшце, што першаснае*: народ ці апарат? Чыя свядомасць павінна вызначаць наша быццё?

Я мушу змагацца за справядлівасць. Мушу канстатаваць, што немагчыма працаваць на энтузіязме. А ў нас не толькі ў тэатры—ва ўсіх галінах і сферах творчасці і вытворчасці ўсё трымаецца на падзвіжніцтве. Пакуль — трымаецца. Але што будзе, калі нам абрыдзее самім сябе ўгаворваць штодня: трэба, мусім, павінны...

Сёння патрабуецца — ідэя! Жыватворная, арыгінальная, перспектыўная. Але вось менавіта ідэй нам бракуе... Краіна перажывае крызіс ідэй... Мы проста-такі зацыкліліся на сваім разваленым сацыуме, зарапартаваліся са сваёю хворай эканомікай. Культура вымагае ўзгадавання людзей элітарных, адносін элітарных: менавіта эліта—*у лепшым сэнсе гэтага* слова—фарміруе будучыя кірункі жыцця...

Трэба навучыцца вымаўляць слова «культура». Распрацаваць *і прыняць закон аб культуры.* Бо менавіта культура вызначыць лёс нашага дома, нашай дзяржавы. І наш чалавечы лёс...

*Запісала Жанна* ЛАШКЕВІЧ.

# ПАТРАБУЕЦЦА КАМПЕТЭНТНАСЦЬ

**Нядаўна ў Доме літаратара адбылася сустрэча з народным дэпутатам СССР, прарэктарам Белдзяржуніверсітэта С. С. Шушкевічам. Гэта была не першая сустрэча дэпутата з пісьменніцкай аўдыторыяй. Тым не менш, пытанняў да вучонага, як і заўсёды раней, было шмат.**

**С. С. Шушкевіч падзяліўся сваімі ўражаннямі ад работы прайшоўшага З'езда народных дэпутатаў, расказаў аб найбольш вострых яго момантах. Па просьбе прысутных ён больш падрабязна спыніўся на структуры і дзейнасці міжрэгіянальнай дэпутацкай групы (МДГ), у якую ўваходзіць і сам разам з некаторымі членамі беларускага дэпутацкага клуба.**



**Асноўная частка пытанняў тычылася, натуральна, праблем Чарнобыля, якімі С. С. Шушкевіч як фізік-ядзернік займаецца цяпер пастаянна. Адказваючы на іх — грунтоўна і па магчымасці падрабязна, — вучоны прасіў усіх зразумець, што эмоцыі бываюць дрэнным памочнікам там, дзе патрэбны канкрэтныя дзеянні. Ад людзей навукі, на думку Шушкевіча, патрабуюцца перш за ўсё прафесіяналізм, заснаваны на дакладнай інфармацыі, кампетэнтнасці. Яе, гэтай кампетэнтнасці, не хапае многім кіраўнікам. А інфармацыю сумленных навукоўцаў наўмысна ігнаруюць бюракратычныя структуры грамадства, адной з якіх з'яўляецца, у прыватнасці, Міністэрства аховы здароўя.**

**Гаворачы далей пра рэспубліканскую праграму ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі, вучоны паведаміў, што праграма праходзіць зараз дзяржаўную экспертызу, і выказаў спадзяванні на аб'ектыўнасць экспертаў, якія вывучаюць сітуацыю ў заражаных раёнах.**

**С. С. Шушкевіч адказаў на пытанні аб агульнай палітычнай сітуацыі ў краіне, аб нацыянальна-культурных праблемах на Беларусі і на многія іншыя.**

**На завяршэнне дададзім, што С. С. Шушкевіч зарэгістраваны ў якасці кандыдата ў народныя дэпутаты Беларускай ССР па Адоеўскай выбарчай акрузе № 44.**

**НАШ КАР.**

# «УСТАЎ», «СТАТУТ»...

**31 студзеня—2 лютага ў Мінску працаваў XIII з'езд Саюза мастакоў Беларусі. Ён меў сваёй мэтай прыняцце новага статута творчага саюза. На абмеркаванне дэлегатам з'езда былі прапанаваны два праекты — распрацаваны статутнай камісіяй саюза «Устав Союза художников БССР» і альтэрнатыўны праект «Статута Згуртавання мастакоў Беларусі».**

Адпаведна «Уставу...» Саюз мастакоў БССР—«член... федерации Союзов художников СССР». «Статут...» жа абвяшчае Згуртаванне мастакоў Беларусі самастойнай арганізацыяй. У. Стальмашонак характарызаваў сітуацыю, якая склалася на з'ездзе, як фактычны раскол, гаварыў пра магчымасць утварэння на Беларусі двух Саюзаў мастакоў. Аднак папярэдзіў, што пры існуючай у рэспубліцы сістэме фінансавання культуры ў лепшым становішчы, на ягоную думку, будзе той, які падтрымае дзяржава. А дзяржава падтрымае «члена федерации Союзов художников СССР». Пры галасаванні за «Устав...» было пададзена 313 галасоў, за «Статут...» — 165, устрымаліся — 15 дэлегатаў.

Потым адбыліся выбары старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР, старшыні рэвізійнай *камісіі, праўлення*. Найбольшыя шанцы ўзначаліць саюз меў А. Марачкін. Але ён, як адзін з аўтараў «Статута Згуртавання мастакоў Беларусі», узяў самаадвод. Услед за ім самаадводы ўзялі шэраг іншых кандыдатаў (хто па той жа прычыне, што і Марачкін, а хто рэальна ацэньваючы свае шанцы). Такім чынам, засталося чатыры кандыдатуры, а барацьба разгарнулася паміж двума кандыдатамі — Л. Шчамялёвым і Г. Буралкіным, прадстаўніком гродзенскай абласной арганізацыі, з якім «правінцыя» звязвае свае надзеі на пэўную незалежнасць (найперш фінансавую) ад Мінска. Перамог Г. Буралкін. Старшыня рэвізійнай камісіі — В. Нямцоў. Абрана праўленне. З'езд прыняў шэраг рэзалюцый.

Пасля завяршэння з'езда адбыўся сход прыхільнікаў Згуртавання мастакоў Беларусі.

**Наш кар.**



**У Доме літаратара ў Мінску працягваюцца вечарыны аўтэнтычнага фальклору, прысвечаныя 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны. Чарговыя з іх ладзіла Брэстчына. На вечарыне было шмат дзіўнага. Дарэчы, значная частка самадзейных артыстаў прыехала ў Мінск з пасёлка, які так і называецца — Дзівін. Гэта ў Кобрынскім раёне. Мы ўбачылі такія адметныя нацыянальныя строі, якіх да гэтага часу не сустракалі на ранейшых вечарынах. Таму і даводзілася гасцям тлумачыць нам, прысутным, што па-мясцоваму кыбалка — гэта закручаны на галаве ўбор, а пасталы — лапці на нагах. На выстаўцы народных умельцаў Кобрынскага раёна мы ўбачылі тканыя і вышываныя ручнікі, пакрывалы, посцілкі, вырабы з дрэва і прадметы ганчарства.**

**НАШ КАР.**

Фота Ул. КРУКА.

*Гісторыя вучыць...*

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

# ПА-ЗА МЕЖАМІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА?

**Эпоха галоснасці дазваляе нам сёння адваёўваць у пагромшчыкаў нацыянальнай культуры аднаго за адным найбольш заслужаных дзеячаў мінулага, хоць і цяжка гэта даецца, вельмі цяжка. Усё ж такі агульнымі намаганнямі грамадскасці ўдалося адваяваць права на публікацыю твораў Алеся Гаруна, рэабілітаваць Язэпа Лёсіка, Вацлава Ластоўскага, Антона Луцкевіча і іншых.**

**Настала пара і пра сам гістарычны працэс пагаварыць з улікам тых фактаў, якія да гэтага часу за сямю пячаткамі, за непранікальнай заслонай хаваліся ад нашых людзей.**

СЁННЯ пачынае з'яўляцца ўсё больш падстаў для аптымістычных настрояў. Мы становімся сведкамі, можа, і нечаканай, але заканамернай з'явы: чым больш недальнабачныя кіраўнікі абмяжоўваюць наш доступ да нацыянальнай культурнай і літаратурнай спадчыны, да гісторыі наогул, тым большую цікавасць да іх праяўляе наша грамадскасць. І ўспрымалася як недарэчнасць тое, што да нядаўняга часу нават у мінскіх, сталічных кнігарнях зусім не было кніг па беларускай дакастрычніцкай гісторыі. У спецыялізаваным магазіне «Акадэмкніга» ў Мінску можна набыць з акадэмічнага поўнага збору рускіх летапісаў том, прысвечаны Сібіры. А вось беларускіх летапісаў (перш за ўсё 35-га тома гэтага выдання) не было тут і ў паміне.

Каб захаваць мову, патрэбна яшчэ і нацыянальнае ўсведамленне. А яго не можа быць без ведання роднай гісторыі. Ці задумаўся хто над тым, што супраць беларускай мовы як такой не выступалі ні Лука Бэндэ, ні Лаўрэнцій Абэцэдарскі, ні сучасныя іх аднадумцы. Але наша бяда ў тым, што кожны з іх паасобку лічыў або лічыць сваім абавязкам (яны свята перакананы, што гэта іх **партыйны** абавязак — чым яны дыскрэдытуюць і партыю і яе ідэйную лінію) выкарчоўваць памяць аб нацыянальнай гісторыі.

Найбольш цяжка нам даецца асэнсаванне гісторыі пачатку XX стагоддзя — асабліва перыяду першай сусветнай вайны ды і 20—30-х гадоў. Надта ж многа наблыталі гісторыкі — не па сваёй волі або недасведчанасці, а каб дагадзіць тупым і несумленным чыноўнікам, якія свядомую фальсіфікацыю гістарычнага працэсу пераўтварылі ў абавязковую норму ўсёй навуковай творчасці і ідэалагічнай дзейнасці.

Нас перш за ўсё цікавіць становішча ў Беларусі ў пачатку XX стагоддзя. Тут народная рэвалюцыя 1905—1907 гг., накіраваная супраць самадзяржаўнага дэспатызму, памешчыцка - буржуазнага прыгнёту, дала магутны імпульс росту нацыянальнай свядомасці народа. Вядучую ролю ў нацыянальным руху адыгрывала Беларуская сацыялістычная грамада.

У рэзалюцыі летняй, 1913 года, нарады ЦК РСДРП, напісанай У. І. Леніным, ясна гаворыцца пра «нечуваны нацыянальны прыгнёт большасці насельніцтва Расіі царскай манархіяй, якая ўяўляе сабой самы рэакцыйны і варварскі дзяржаўны лад у параўнанні з суседнімі дзяржавамі ў Еўропе і ў Азіі» і пра «чарнасоценны вялікарускі нацыяналізм, які падтрымліваецца традыцыяй шэрагу крывавых расправаў з нацыянальнымі рухамі» (У. І. Ленін. ПЗТ. ,т. 24, с. 58—59).

У незвычайна пярэстай мазаіцы нацыянальных рухаў не толькі Расіі, але і ўсёй Еўропы У. І. Ленін бачыў і Беларусь. Пры гэтым ён падкрэсліваў непазбежнасць і дэмакратычны характар абароны беларусамі і ўкраінцамі бацькаўшчыны, г. зн. сваіх нацыянальных правоў. У сувязі з гэтым нагадаю яшчэ раз такую вядомую і памятную ўсім нам цытату. У 1916 г. У. І. Ленін, называючы канкрэтна беларусаў і ўкраінцаў, пісаў: «Отечество» здесь **еще** не спело всей своей исторической песни. «Защита отечества» **еще** может быть здесь защитой демократии, родного языка, политической свободы против угнетающих наций, против средневековья...» (т. 30, с. 89 — 90).

Гэтая цытата прыводзіцца бадай у кожным артыкуле, у кожным даследаванні. Але змяшчаецца яна ў такім гістарычным вакууме, што ніяк нельга здагадацца, хто ж гэта ўзнімаў пытанне аб нацыянальных правах беларусаў, аб бацькаўшчыне, аб абароне дэмакратыі і правоў на родную мову. Якія грамадскія сілы і якія дзеячы? Адразу нагадаю, што яшчэ ў пачатку 1917 г. на тэрыторыі Беларусі не было бальшавіцкіх арганізацый. Акадэмік І. М. Ігнаценка, са спасылкай на В. Кнорына, удакладняе, што **толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі** ў Мінску была створана Аб'яднаная сацыял-дэмакратычная арганізацыя, у склад якой увайшлі 118 меншавікоў і бундаўцаў і 13 бальшавікоў.

**Шырокае разгортванне беларускага нацыянальнага руху напярэдадні** першай сусветнай вайны і ў час яе — заслуга **Беларускай сацыялістычнай грамады, яе стваральнікаў і кіраўнікоў і перш за ўсё — братоў Луцкевічаў. Без гэтай партыі не было б ні «Нашай долі», ні «Нашай Нівы», ні шырокага літаратурнага і выдавецкага руху, ні росту нацыянальнай свядомасці беларусаў.**

Тут узнікае пытанне: чаму У. І. Ленін пісаў пра абарону дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супраць «**угнетающих наций**»? Ці не памыляўся ён, пішучы пра ўкраінцаў і беларусаў? Чаму там **множны лік**, калі вядома, што абодва нашы народы знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі? Тут жа адна толькі нацыя была пануючай.

Адказ на гэтае пытанне даюць нашы пісьменнікі ў мастацкіх і публіцыстычных творах. Янка Купала ў вершы «Папросту» (зборнік «Шляхам жыцця», 1913 г.) пісаў:

**Проста жывём мы, як доля ручыць,**
**І крывадушыць не спрабавалі,**
**Просім папросту: кіньце нас мучыць,**
***Ляхі, маскалі!***

Тое ж самае мы чытаем і ў артыкуле «Одгукі» А. Прушынскага («Вольная Беларусь», 1918, № 1): «...Народ наш да гэтага часу быў у аблозе. Навокала яго сядзелі ворагі і з усіх бакоў будавалі «пляцоўкі» (фарпосты. — **У. К.**) — у грамадскіх установах — маскоўскія, у дварох — польскія. Зруйнаваць гэтыя пляцоўкі — гэта першы крок у бок аслабанення нашага народу ад усякага ўціску: і матэрыяльнага і культурнага».

Так мы можам пераканацца, што У. І. Ленін не памыляўся, пішучы аб нацыях, якія прыгняталі беларусаў і ўкраінцаў. Праўда, прыгняталі не самі нацыі як такія, а тыя слаі, якія мы называем пануючымі.

ШЫРОКА ў нашай рэспубліцы адзначалася 70-годдзе БССР і КПБ. Але доўгі час надта ж ужо далікатна абыходзілася пытанне аб тым, як супраць утварэння БССР змагаліся Мяснікян (Мяснікоў), Кнорын, Рэйнгольд, *Ландэр і іншыя, якіх зменлівыя падзеі* вайны выпадкова закінулі на тэрыторыю Беларусі. Тут яны вырашалі лёс народа, з якім іх да гэтага часу нічога не злучала: ні паходжанне, ні мова; у іх не было ўяўлення аб гісторыі, культуры, этнаграфіі беларусаў. Яны наогул не прызнавалі такога народа, такой нацыі, а *кожную спробу загаварыць аб нацыянальных правах беларусаў абвяшчалі нацыяналізмам.*

М. Сташкевіч у артыкуле «На грани возможного. Идейно-политическая борьба вокруг создания белорусской советской государственности: «белые пятна» («Неман», 1989, № 10) прыводзіць вытрымку з напісаных у лютым 1919 г. успамінаў Вільгельма Кнорына аб І Усебеларускім з'ездзе Саветаў: «Представители с мест не жалели самых ярких красок для того, чтобы охарактеризовать никчемность белорусского национализма, ненужность белорусского языка для Минской губернии, полную неспособность для руководства государством Жилуновича и К°».

В. Круталевіч у артыкуле «Чаму паў урад Жылуновіча» («Спадчына», 1989, № 1) спасылаецца на цікавае паведамленне ўпаўнаважанага Наркамата па замежных справах РСФСР М. Машыцкага ў Маскву аб агульнай атмасферы на тым жа з'ездзе Саветаў (2—3 лютага 1919 г.) і аб выбарах кіруючых органаў рэспублікі: «Кандыдатуры падвяргаліся сур'ёзнаму абмеркаванню. Бездакорны партыйны стаж і працяглая прыналежнасць да бальшавізму патрабаваліся ад тых, каго выбіралі ў ЦВК, найменшая няпэўнасць у палітычным мінулым, асабліва сувязь з нацыяналізмам, была прычынай многіх адводаў. З асаблівым скандалам, шумам, усеагульным хваляваннем правальваліся кандыдатуры старшыні Жылуновіча, камісара працы Дылы і камісара замежных спраў Фальскага, якія не атрымалі ніводнага голасу». В. Круталевіч тут жа ўдакладняе: «Зусім нядаўна ён (Мяснікоў. — **У. К.**) рашуча выступаў супраць утварэння БССР, а праз месяц узначаліў яе ўрад, стаў старшынёй ЦБ КП(б)Б, аб'яднаўшы ў сваёй асобе партыйную і дзяржаўную ўладу».

А што значыла на практыцы патрабаванне «бездакорнага партыйнага стажу» і «працяглай прыналежнасці да бальшавізму»? Калі нагадаць, што на тэрыторыі Беларусі нават у дні Лютаўскай рэвалюцыі не было бальшавіцкіх партыйных ячэек, то гэтым самым **беларусам закрывалася дарога да ўдзелу ў рабоце кіруючых органаў рэспублікі.**

Сёння настала пара сказаць, што не апошнюю (а можа, нават і рашаючую) ролю ва ўтварэнні БССР адыграла абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года. Існаванне БНР, хоць бяспраўнай і паралізаванай, патрабавала аналагічных дзейсных, эфектыўных контрмер, каб не даць ёй магчымасці зрабіцца адзіным цэнтрам кансалідацыі нацыянальных сіл у супярэчлівых і зменлівых умовах вайны.

Не варта забываць, што праграма, сфармуляваная яшчэ 9 сакавіка 1918 года ў другой устаўной грамаце БНР, была сапраўды прывабнай і для гарадскога рабочага, і для сельскай беднаты, і для інтэлігента з народа. Праўда, у кнізе «Дары Данайцев» даецца ёй зняважлівая характарыстыка: «Другая «ўстаўная грамата» абяцала свабоду слова, друку, забастовак, веравызнання, васьмігадзінны рабочы дзень, раўнапраўе моваў народаў, *што насялялі* Беларусь. Калі раней нацыяналісты адкладвалі вырашэнне зямельнага пытання да Усебеларускага ўстаноўчага сходу, то зараз яны абвясцілі аб адмене прыватнай уласнасці на зямлю і перадачы яе без выкупу сялянам. Гэтым «рэвалюцыйным» (двукоссі аўтараў кнігі. — **У. К.**) крокам лідэры беларускага нацыяналізму разлічвалі аслабіць вастрыню класавых супярэчнасцей і адначасова заваяваць сімпатыі беззямельных і малазямельных сялян».

Калі паверыць аўтарам кнігі, то ўся гэта праграма нічога не вартая разам са свабодай слова, друку, веравызнання і г. д. Усё гэта дробнабуржуазныя выдумкі. А яшчэ цікавае ў іх уяўленне аб нацыяналізме. Патрабаванне роўных правоў для роднай мовы — гэта зараза нацыяналізму. Ва ўсім падразумяваецца, што толькі непадзельнае карыстанне ўсюды адной мовай — вядома, рускай — гэта той сапраўдны інтэрнацыяналізм, без якога немагчыма шчасце ўсіх працоўных.

Каб паказаць, як з ног на галаву ставяцца і гісторыя, і самі гэтыя тэрміны, давядзецца прывесці некалькі цытат з праграмы Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (БСДП), апублікаванай у 1920 г. (тэкст яе надрукаваны сёння ў часопісе «Беларусь», 1989, № 10). Нашаму чытачу сёння карысна паглядзець, як гэты «нацыяналістычны курс» БСДП выглядаў на самай справе:

«Тварыць па-за межамі нацыянальнасці немажліва. І народ, **звольнены ад капіталістычнага вызыску**, так сама, як і ў цяперашнія часы, **будзе выяўляць сваю найвышэйшую творчасць у нацыянальных формах.** А значыць і ўселюдскі прагрэс, які ёсць творчасцю перад усім, будзе йсці нацыянальнымі шляхамі і прывядзець ніякім чынам **не да асіміляцыі народаў, а толькі да вышэйшай формы іх згоднага жыцця, працоўнага Інтэрнацыяналю».** «У царства сацыялізму ўвойдзе беларускі народ, як роўны з іншымі народамі толькі пры варунку развіцця ўсіх бакоў яго духоўнага жыцця, што магчыма толькі ў рамках нацыянальнай культуры». «Правы нацыянальных меншасцяў як у Беларусі для небеларускіх народаў, так і ў іншых краёх — для самых беларусаў, павінны быць усюды забяспечаны культурна-нацыянальнаю аўтаноміяй». «Развіццё нацыянальнай культуры ні троху не перашкодзіць справе работніцкай, сацыялістычнай, а наадварот, паможа ім. Сацыялісты разумеюць нацыянальную справу не як прычыны нянавісці да іншых народаў, **а як моцную пабудку да працы на карысць усіх людзей свету».** «Каб жа служыць якомусь народу, трэба гэты народ любіць, а такая любасць і ёсць нацыянальным пачуццём». «Задача сацыялізму, які ніколі ня йдзе проці прыроднага развіцця справы,—**ёсць не клапаціцца аб зніштажэнні нацыянальных асобнасцяў, а наадварот, культываваць іх, як усякую іншую прыродную сілу.** Затое ж задачаю сацыялізму ёсць клапаціцца, каб розніцы ў псыхалёгіі, у нацыянальнай творчасці не служылі асноваю спрэчак і барацьбы паміж народамі».

Сёння, праз сем дзесяцігоддзяў пасля апублікавання праграмы Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, яе фармуліроўкі па нацыянальных праблемах гучаць так актуальна, *быццам бы яны на*пісаны спецыяльна з думкай пра наш час. Гісторыя з усёй сілай пацвердзіла бесперспектыўнасць тагачасных нігілістычных адносін да нацыянальных рухаў і тых канцэпцый, якія з такой настойлівасцю і запалам прапагандаваліся ў друку і ажыццяўляліся ў палітычнай дзейнасці.

Абвяшчэнне праграмы БСДП «нацыяналістычнай» — добры паказчык узроўню нашай афіцыйнай гістарычнай навукі, выяўленне прынцыпаў (ці больш дакладна: беспрынцыпнасці) тых дзеячаў, што гістарычную праўду тапілі ў ідэалагічнай дрыгве.

ВЕРНЕМСЯ яшчэ раз да падзей, звязаных з вынікамі І Усебеларускага з'езда Саветаў у пачатку лютага 1919 года, тых падзей, якія так красамоўна ацэньваліся ва ўспамінах Кнорына і Машыцкага. Дастаткова выразнае ўяўленне аб ідэйных пазіцыях кіраўнікоў так званага Аблвыканзаха дае артыкул «Зло национализма (К оздоровлению Советской Белоруссии)», апублікаваны ў газеце «Звязда», органе Цэнтральнага бюро і Мінскага камітэта Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі 18 лютага 1919 г. Пачытаем гэты павучальны артыкул:

«Товарищи, бывшие на съезде Советов Белоруссии в Минске, в один голос передают о том **антинационалистическом, антишовинистическом** настроении, которое царило в среде громадного большинства съезда. Единодушный провал кандидатур Жилуновича, Дылло и К-о, не говоря уже о национальном представительстве И. К. соглашателей, свидетельствует о выдержанности политической линии съезда и об окончательном разрыве белорусского пролетариата с националистическими тенденциями.

Но уже самый факт, что вопрос этот **остро** встал на съезде Советов, говорит нам, что широкие слои мелкой буржуазии «народа» в буржуазном смысле этого слова еще создают ту или иную атмосферу национализма даже вокруг рабоче-крестьянских советов.

Вспомним, что «Цебе» (ЦБ — Центральное бюро. — **У. К.**) на своих первых шагах уже принуждено было упразднить белорусские секции при организациях Компартии, мотивируя это тем, что в разных местах появляются «белорусы-коммунисты», ведущие «белорусскую» пропаганду и извращающие в ней смысл происходящих событий, в частности — смысл отделения Белоруссии (...).

Эти «советские» социал-шовинисты, как их наименовала тогда «Звезда», *требовали на съезде образования* **белорусской** области, а не «западной». Но происходило это совершенно не по тем причинам, по каким теперь на Западе России образована самостоятельная Белорусско-Литовская Советская Республика. Если теперь коммунисты руководствуются соображениями **тактическими**, диктуемыми определенной международной обстановкой, то тогда националиствующие «белорусы» выдвигали **принципиальные** (якобы!) соображения.

«Принципы» их были достаточно смехотворны; упорно «напиралось» на **этнографическое** сродство белорусских губерний (!) и в этом отношении доходили до абсурда, в роде перенесения центра области в захолустный, не представляющий собой ни экономической, ни политической величины Полоцк.

Под Советскую власть в западной области определенно подкапывались, стараясь **классовое** областное объединение заменить **национальным**.

Точь в точь тот подкоп мы видим четыре месяца спустя в начале 1919 г. Обстановка деятельности «советских» социал-шовинистов изменилась; пролетариат западного края из тактических соображений пошел под «белорусским» флагом, против которого он так бурно протестовал 11—12 сентября. Этим воспользовались мелкобуржуазные элементы, чтоб под маской коммунистов («белорусских») пролезть в самое сердце советской Белоруссии (в правительство!).

(Працяг на стар. 12).

# *Беларуская мова—дзяржаўная*

**У рэдакцыю «ЛіМа» працягваюць пастунаць пісьмы, віншавальныя паштоўкі, тэлеграмы ад нашых чытачоў з розных куткоў рэспублікі і краіны — і гэта зразумела: беларускай мове нададзены статус дзяржаўнай.**

**«Лічу гэтую падзею гістарычнай для будучыні беларускага народа і яго мовы. Дык давайце ж, браты-беларусы, будзем агульнымі намаганнямі змагацца за тое, каб родная мова жыла не толькі на старонках газет і часопісаў, але і гучала ў нашых хатах, на вуліцах вёсак і гарадоў, ва ўстановах і прадпрыемствах», — піша наш чытач з г. Вілейкі Г. Даніловіч. З клопатам пра ўкараненне ў штодзённае жыццё роднай мовы звярнулася да нас таксама мінчанка З. Сачанка.**

**«Віншую беларускі народ і калег-пісьменнікаў дзяржаўным статусам роднай мовы», —тэлеграфавала з Вільнюса літоўская перакладчыца Эмілія Легутэ. А нашу зямлячку, юрыста В. Хамянюк, якая цяпер жыве таксама ў Вільнюсе, гэты гістарычны дзяржаўны акт натхніў на верш, радкі з якога мы цытуем: «Даволі пытанняў, сумот і пакут. Жыве беларуская мова! Хай школа — вышэйшы яе інстытут — Да ўсіх данясе сваё слова».**

**Так, сапраўды, усіх нас чакаюць нялёгкія дарогі сцвярджэння матчынай мовы. І пра гэта пішуць многія чытачы «Ліма».**

**Васіль ВІТКА**

## НАРЭШЦЕ!

Апошняя сесія Вярхоўнага Савета БССР кагадзе што прыняла закон аб наданні дзяржаўнасці беларускай мове ў Беларусі. Шчыра прызнаюся, што ў многіх з нас, каму гэтае намаганне балела столькі год, каштавала сіл, здароўя, горкіх страт, перажыванняў і непрыемнасцей, гэта асаблівага захаплення не выклікала. Не магло выклікаць і адчування асаблівай навізны як найважнейшай падзеі. Для свайго водгуку я ўжо ледзьве рашыўся выдыхнуць слова: нарэшце. Якое ўжо тут «нарэшце», калі ўсе рэспублікі ўзаконілі свае мовы! І мала мне гонару ад таго, што мая з-за сваёй адвечнай перапалохананасці нават на пятым годзе перабудовы ўсё яшчэ азіраецца па баках і застаецца вернай характару таго ўсім вядомага героя, якога наш драматург так удала назваў: Туляга.

Нямала дзесяткаў год наша казённая плутакратыя ад наменклатурных саноўнікаў да самай здрабнелай чыноўніцкай шляхты перадрыжала, перакалацілася ад страху, каб у іх вернападданых прамовах вышэйшаму начальству, крый бог, не пачуўся нейкі яшчэ там «беларускі акцэнт»! Кар'еры з ім не зробіш, у вярхі з ім не трапіш. А калі воляй усявышняга каторы і трапіць, то, як мы не раз пераконваліся, чыноўны славалюб-беларус заўсёды русей рускага.

Трагікамічны парадокс: той, хто ледзь-ледзь валодаў адной-адзінай мовай і лічыць сваім манапольным правам вучыць нас, як нам на свеце жыць і з кім дружыць, чамусьці заўсёды ўпэўнены, што ён сапраўды інтэрнацыяналіст, а мы нацыяналісты ўжо за адно тое, што, акрамя сваёй роднай, яшчэ ведаем, любім і шануем мовы ўсіх нашых сяброў.

**Чым асабліва ўразіла, як ні адна за многія дзесяцігоддзі, менавіта гэтая апошняя сесія? Перш за ўсё тым, што дэпутаты, якія выступалі за прызнанне беларускай мовы дзяржаўнай, самі загаварылі на гэтай мове. Высока ацэньваючы змястоўнасць асноўнага даклада, з якім выступіла намеснік Старшыні Савета Міністраў Н. М. Мазай, кожны, хто мае чуйны слых да беларускага слова, не мог не зазначыць прафесійнай дасканаласці самой моўнай культуры, свабоды і натуральнасці валодання ёю. Міжволі прыгадалася даўняя мудрасць: колькі моў я ведаю, столькі разоў я чалавек. І гэта асабліва важна, што з самога даклада быў зададзены не толькі тонус, а і ўзровень пэўнай філалагічнай культуры і нацыянальнай інтэлігентнасці. На сваёй мове гаварылі не толькі, як звычайна, пісьменнікі, а і дзеячы навукі, мастацтва, міністры, дзяржаўныя і партыйныя работнікі.**

**Дзякуй богу, паў яшчэ адзін бастыён беларускага кансерватызму і нацыянальнага нігілізму, якім мы так даўно ўжо выславіліся перад усім светам.**

Што цяпер мне здаецца самым важным? Гэта ў першую чаргу, каб наша мова сталася законнай не толькі таму, што прыняты такі закон. Арганічна і натуральна, без натугі і гвалту яна можа ўвайсці ў жыццёвае асяроддзе, у побытавы ўжытак, у наш спосаб мыслення толькі па закону нашай сумленнасці, па закону нашай людской годнасці і самасвядомасці.

З чаго пачынаць — спытаеце? З кадраў. З падрыхтоўкі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, бо людскія рэзервы нашай культуры на зыходзе. Звялося беларускае настаўніцтва, якое яшчэ да вайны было галоўным апірышчам, на якім трымалася самасвядомасць народа. Як ні крыўдна, як ні балюча, у сістэме асветы найбольей падсечана сярэдняе звяно, з якога пачынаецца дашкольнае выхаванне і навучанне малодшых класаў. У першую чаргу і ўсімі неадкладнымі сродкамі трэба падняць значэнне, ролю і аўтарытэт педагагічных вучылішчаў.

**Хто з людзей старэйшых узростаў не помніць такой адной з першых навучальных устаноў у рэспубліцы — Белпедтэхнікум? Заснаваны ў першыя гады Савецкай улады, я не перабольшу, калі скажу, што па свайму значэнню ён быў нашым першым беларускім ліцэем. Са славутага Царскасельскага выйшаў Пушкін. Душою беларускага быў Якуб Колас, які выкладаў там літаратуру і методыку роднай мовы. Дзядзька Колас хадзіў тады зімою яшчэ не ў гарадскім паліто і не ў дублёнцы, а ў звычайным вясковым кажусе. Успомніўшы крылатае прызнанне, што руская літаратура выйшла з гогалеўскага шыняля, мы не памылімся, сказаўшы, што з коласаўскага кажуха выйшла не толькі літаратура, а і ўсе пачынальнікі беларускага настаўніцтва.**

**Колькі ж зараз у доўгачаканы час нацыянальнага адраджэння, вяртання да роднай мовы нам спатрэбіцца ўжо не казённых настаўніцкіх казармаў, аднолькавых, уніфікаваных на адзін капыл так званых педвучылішчаў, а сапраўдных ліцэяў, устаноў самай высокай педагагічнай культуры, у якіх бы вучыцца для нашай моладзі было б за вялікі гонар! Дзеля гэтага спатрэбяцца і літаратурныя, і мастацкія, і музычныя, і народных рамёстваў і майстры дамаводства, дый ці мала яшчэ якіх, калі прыкінуць, прымеркаваць цвярозым, практычным розумам. Замшэлы чыноўны таўкач, якому абы дацягнуць да пенсіі, патрабуе аж дзве пяцігодкі, каб авалодаць беларускай мовай. Сучаснаму юнаму і маладому пакаленням беларусаў ой-ой ёсць да чаго прыкласці рукі, розум, душу і талент у самыя найбліжэйшыя часы і тэрміны.**

Хоць і сам далёка не перспектыўнага ўзросту, я аднак ніколі не палохаў і не палохаю сябе біблейскім апакаліпсісам. Беларускай мове жыць, пакуль жыць самому народу. Ужо не ў памяці, а ў аналах цывілізацыі сабраны, зафіксаваны, назаўсёды закадзіраваны ўсе яе незлічоныя скарбы. Энтузіясты, падзвіжнікі, вучоныя-лінгвісты, філолагі, фалькларысты, творцы мастацтва ўвекавечылі яе назаўсёды, нават ў самы змро-

**Якуб КОЛАС**

## «ПРАШУ ЗРАЗУМЕЦЬ МЯНЕ ПРАВІЛЬНА...»

**Пра гэтае пісьмо неадногчы гаварылася, — як у прыватных размовах, так і ў публічных выступленнях,—згадвалася яно і ў друку, у тым ліку на старонках «ЛіМа». Вакол яго хадзіла нямала чутак, яно з цягам часу абрасло нават легендамі. Меліся падставы для таго, каб усклікнуць: «А ці было наогул гэта пісьмо? Ці існуе яно ў прыродзе?»**

**Адказваем: пісьмо было, пісьмо ёсць. Вось яно...**

**Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч) напісаў яго 25 мая 1956 года. Па нейкіх прычынах не адразу звярнуўся з ім па адрасу. Толькі 13 жніўня пайшоў раніцай ў ЦК КПБ са сваім пісьмом. Не змог перадаць яго сакратару ЦК, да якога меў намер звярнуцца (той быў заняты на пасяджэнні Бюро ЦК), перадаў пісьмо ў аддзел культуры. Трагічнае супадзенне: праз некалькі гадзін пасля візіту ў ЦК народнага песняра не стала...**

**На шмат гадоў канула ў небыццё і пісьмо запавет Якуба Коласа.**

**Нашы чытачы не раз звярталіся ў рэдакцыю з просьбай паведаміць пра лёс пісьма, пра яго змест. Нарэшце, у нас з'явілася магчымасць выканаць гэтую просьбу.**

*У Бюро ЦК КПБ*

Дарагія таварышы!

Калі б сіла ўяўлення змагла паказаць мне гадоў 50 таму назад сягоннашні Мінск і ўсю нашу рэспубліку такімі, якімі яны зараз ёсць, гэта здалося б недасяжнаю мараю, неправдзівым сном. Я гавару аб тым, што асабліва дорага майму сэрцу, бо на маіх вачах узрос і адужаў беларускі народ, стаў жыць непараўнана лепш, змяніў аблічча свае зямлі. Маладыя людзі ўжо не могуць уявіць сваю краіну без аўтамабіля на вуліцы, без трактара на полі, без велічных гарадоў, без электрычнага святла, усеагульнай граматнасці, без кіно, тэатра. Гэта ўсё — наша праца, клопат Савецкай улады, кіраўніцтва Камуністычнай партыі. Нашы здабыткі — гэта мы самі, савецкія людзі, працавітыя, простыя. З тым большай пільнасцю і дбайнасцю беражом мы свае шчасце, сваю працу, свае багацці.

Найвялікшым духоўным багаццем народа з'яўляецца яго мова. У мове адлюстроўвалася гісторыя народа, яго працоўнае жыццё, яго барацьба, яго смутак і радасць, яго прырода, яго любоў і гнеў. Любіць і шанаваць мову нас вучыў вялікі Ленін, выдатныя пісьменнікі, вучоныя, педагогі.

Беларуская мова параўнаўча маладая. Хоць і даўно ўжо гаворыць на ёй народ, але як мова навукі, палітыкі, літаратуры яна знаходзіцца ў перыядзе станаўлення. Таму задача савецкай інтэлігенцыі рэспублікі — берагчы мову, вывучаць яе, распрацоўваць і пашыраць. Гэта дасягаецца, па-першае, штодзённым яе ўжываннем у побыце, на рабоце, у дзяржаўных, грамадскіх і культурных установах.

Ці ўсё добра ў нас у гэтых адносінах? Далёка не ўсё. На мой погляд, далейшае развіццё культуры рэспублікі вельмі многа праігрывае і, скажам проста, стаіць перад сур'ёзнай пагрозаю іменна ад недастатковай увагі да роднай мовы. Установы сталіцы вывелі з абыходку беларускую мову: на ёй не вядзецца перапіска, на ёй не гавораць з наведвальнікамі, у гарадах няма беларускіх шыльд і надпісаў, мала беларускіх афіш і плакатаў. Смешна сказаць, але, праехаўшы Мінск, кавалак Слуцкага шасе на працягу 30 кіламетраў, я не ўбачыў ніводнага беларускага слова. Толькі ў Русінаве на даследчай бульбяной станцыі знайшлося два пачарнелых ад часу надпісы: «Кузьня» і «Сьвіран». Дый то, відаць, яны былі зроблены ў 30-х гадах, да рэформы правапісу, бо пасля мяккіх зычных у іх стаіць мяккі знак. Няўжо ж нашы аўтамабілі, трактары, станкі, тканіны, цукеркі, папяросы сталі б горшымі, каб на іх былі беларускія надпісы. Хай толькі якасць не падводзіць! Бо колькі ні пішы «Казбек» на мінскіх папяросах, усё роўна спажывец патрабуе ленінградскіх. Свіслач рака незайздросная, але калі папяросы з такой назвай будуць самымі лепшымі, дык яны знойдуць попыт ва ўсім Савецкім Саюзе. Чаму ж мы дапускаем, каб беларускія этыкеткі з'яўляліся толькі на дрэнным гуталіне і на не вельмі смачных водах? Гэта ж і мала, і проста крыўдна.

Акадэмія навук, якая павінна быць цэнтрам беларускай навукі, не карыстаецца беларускаю моваю, не выдае на ёй работ, не праводзіць паседжанняў. Тое, што ў Акадэміі існуюць інстытуты мовы і літаратуры, яшчэ справы не рашае. У нас дасюль не распрацавана беларуская тэрміналогія па ўсіх галінах навукі, а гэта дало б магчымасць пісаць па-беларуску навуковыя працы і выкладаць па-беларуску спецыяльныя дысцыпліны. Няўжо ж навуковая работа, калі яна ўдалая і цікавая, што-небудзь страціць ад таго, што будзе напісана па-беларуску! Наадварот, яе будуць перакладаць і пашыраць на многіх мовах свету, як гэта робіцца з творамі нашых літаратараў. Могуць сказаць, што, стаўшы на такі шлях, распужаеш з Акадэміі вучоных, ураджэнцаў іншых рэспублік, якія не ўладаюць мовай. Не, ніхто не збіраецца саджаць за азбуку паважаных і сур'ёзных людзей. Аднак, жывучы ў Беларусі, і ім бы не грэх навучыцца хоць бы чытаць газету. Большасць жа нашых вучоных — беларусы, і мову яны ведаюць, але ёю не карыстаюцца. У іх адрас і накіраваны гэты папрок. Бо хіба ж можа быць сур'ёзнае развіццё навукі, калі вучоныя не хочуць паважаць мовы народа, на зямлі якога яны працуюць?

Саюзы кампазітараў і мастакоў таксама адмовіліся ад свае мовы. Ну, няхай у іх іншыя сродкі выражэння думак і пачуццяў, не моўныя. Аднак, зрабіць уклад у нацыянальнае мастацтва і музыку, не ведаючы мовы народа, немагчыма. Мова — важнейшы элемент нацыянальнай формы, не ведаючы яе, не карыстаючыся ёю, ні мастак, ні кампазітар не здолеюць аўладаць усімі духоўнымі багаццямі народа.

Беларускую мову можна пачуць у тэатрах і па радыё. Але што гэта за мова? Гэта непрыхаваны здзек над ёю. Артысты і дыктары парушаюць элементарныя правілы вымаўлення, пастаноўкі націскаў, мова засмечана мноствам скажоных слоўкалек, няўдала запазычаных з рускай мовы. Адбываецца гэта таму, што артысты, работнікі радыё, журналісты, газетчыкі не карыстаюцца мовай у побыце. Пераклады газетных артыкулаў і матэрыялаў радыё даручаюцца машыністкам і малаграматным людзям. Адкуль жа тут узяцца добрай мове? Вось і пішуць нашы газеты і часопісы: «прадстаячы», «маючыйся», «кіруемы» і іншыя страхападобныя словы.

Тэатры, ставячы перакладныя п'есы, па-свойму, няграматна папраўляюць перакладчыкаў, змяняюць сказы і словы, бо, бачыце, беларускае слова «не гучыць». Беларускае слова гучыць, але яны не ведаюць яго, не імкнуцца зразумець сэнс і данесці яго да гледача. Назвы п'ес тэатры стараюцца даць так, каб яны былі не перакладзены, а толькі напісаны беларускімі літарамі. Дарэчы, тэатр оперы і балету ніяк не можа ўзбіцца на арыгінальны рэпертуар, пераклады лібрэта класічных опер не робяцца. Спевакі, артысты філармоніі, чытальнікі занядбалі беларускі рэпертуар. Можна пачуць, што такога рэпертуару няма. Няпраўда, ёсць і песні, ёсць і танцы, ёсць і творы для чытання. Трэба працягнуць руку і ўзяць. А пачні шырэй выконваць, дык і рэпертуар пашырыцца, будзе больш ахвоты працаваць у стваральнікаў яго.

Студыя «Беларусьфільм» здымае фільмы на рускай мове, а потым дубліруе іх на беларускую. Такім шляхам нацыянальную кінематаграфію не створыш. Дарэчы, дубліраваныя фільмы не з'яўляюцца на экранах сталіцы, дзе і як яны ідуць, невядома.

Што ж мы маем у галіне народнай асветы? У вузах, тэхнікумах, школах выкладанне не вядзецца па-беларуску, наша мова выкладаецца кепска, так, што робіцца нялюбым прадметам. Беларускіх школ мала, яны размешчаны на ўскраінах, у горшых будынках, у горшых умовах, як бы сумысля, каб малыя дзеці насельніцтва не маглі дабрацца туды. Нават у многіх школах вясковых мясцовасцей беларускага толькі і засталося, што паржавелыя шыльды над ганкам. Кажуць, што супраць беларускай школы з'яўляюцца пратэсты насельніцтва. Я і мае таварышы-літаратары атрымліваем таксама абразлівыя пісьмы за абарону мовы, за работу на ёй. Трэба добра разабрацца, хто гэта піша. Праўда, разбірацца цяжка, бо пішуць ананімы. Ці выражаюць гэтыя пісьмы сапраўдную волю і жаданне народа? Можа, сапраўды наш народ перастаў любіць сваю мову? Не, гэтага не было і не можа быць! Прыслухайцеся да жыхароў гарадскіх ускраін і рабочых пасёлкаў, да калгаснікаў: у іх вуснах гучыць чыстая, прыгожая беларуская мова. Нікому з іх і ў думку не ўпадзе пратэставаць супраць той мовы, на якой ён гаворыць з маленства. Але ёсць мяшчанская праслойка, якая грэбліва адносіцца да нашай мовы; яна мае ўплыў на недастаткова развітых асоб. На жаль, прыслухоўваючыся да голасу гэтага мяшчанства, і некаторыя людзі з органаў народнай асветы пачынаюць імкнуцца ліквідаваць і беларускую школу і наогул выкладанне мовы ў ёй. Але не волю народа выконваюць яны, блізарукія. Пратэставаць супраць роднай мовы, з аднаго боку, могуць людзі па неразуменню, а з другога — нашы ворагі, ворагі нашай савецкай рэчаіснасці, ворагі дружбы народаў. Наогул недастатковая ўвага да мовы дае матэрыял для плётак і інсінуацый нашым замежным ворагам і іх паслугачам — беларускім нацыяналістам.

чны час бяспамяцтва абавязкова прыходзіць «новы, а мудры гісторык», як сцвярджае Купала, што зноў можа аднавіць увесь генетычны фонд народнай памяці — і не толькі ў мове, а ў такіх багаццях усёй спадчыны, якія і не сніліся нам і далёка не былі зразуметы і спасцігнуты намі.

Ужо на сваім нядобрым вяку мы столькі нявечылі, калечылі яе сваімі так званымі рознымі рэформамі, гвалтоўна прыстасоўвалі да неўласцівых ёй законаў, пазбаўлялі яе дабрыні, лагоднасці, мілагучнасці, спеўнасці, што вытруцілі з яе жывую душу. З роднай маці для многіх з нас яна стала злой мачыхай. Ні мы яе не любілі, ні яна нас не любіла і не любіць, сваіх дзяцей.

Паслухайце, пачытайце песні і казкі, складзеныя самім народам, пачытайце творы вялікіх нашых класікаў, услухайцеся ў жывую мову, што гучыць з вуснаў яшчэ жывых яе творцаў, і вы, дальбог жа, даруеце мне, грэшнаму, за тыя сказаныя ў запале словы...

У чым жа прычына сягонняшняга становішча з мовай?

У пэўны час — ці трэба тлумачыць, калі і чаму гэта было? — вялікая група інтэлігенцыі перастала карыстацца сваёю мовай. Абазвацца па-беларуску тады — значыла зарабіць ярлык нацыяналіста.

Прашу разумець мяне правільна. Партыя вяла справядлівую барацьбу з буржуазным нацыяналізмам, ускрываючы шкоднасць і карэнні гэтага зла. Я маю на ўвазе іншае, а іменна — тыя нездаровыя з'явішчы, у выніку якіх значная колькасць партыйнай і савецкай інтэлігенцыі рэспублікі была бязвінна рэпрэсіравана. Дык вось, баючыся быць пакаранымі без віны, людзі пакідалі гаварыць па-беларуску, а потым, натуральна, пакрысе і забывалі мову. Гэтак было са старэйшымі. Моладзь, падрастаючы, пачала ўжо нігілістычна адносіцца да мовы: нашто яе вывучаць, калі яна не мае практычнага прыстасавання, не ўжываецца для выкладання, для перапіскі, не гучыць на сходах...

На жаль, не было зроблена ніякіх крокаў, каб паправіць гэты крэн ад свае мовы. Вымушаны выпадковымі і нездаровымі абставінамі адыход інтэлігенцыі ад беларускай мовы пачаў няправільна разумецца як наогул нелюбоў да яе народа, нежаданне ёю карыстацца. З гэтага неразумення і вынікла тое, што ўжыванне беларускай мовы паступова змяншалася.

Ці не выступаю я такім чынам супраць ужывання і пашырэння рускай мовы? Не. Руская мова — гэта шырокая брама ў культуру рускага народа, народаў нашай Радзімы і ўсяго свету. У маладосці мяне выхоўвалі Пушкін і Крылоў, Дабралюбаў і Чарнышэўскі, у сталыя гады — Ленін, Горкі і савецкая літаратура. Мільёны маладзейшых людзей нашай рэспублікі назавуць гэтых самых настаўнікаў. Руская мова — родная нам, яна — неад'емнае багацце беларуса. Кожны з нас абавязан добра ведаць рускую мову, яна павінна давацца дзіцяці змалку, выкладацца лепей, чым цяпер. Бо, нямага чаго граху таіць, сапраўднага ведання рускай мовы ў рэспубліцы няма, яна перакручваецца і калечыцца, і гэта мне таксама рупіць і баліць, як перакручванне і калечанне мовы беларускай.

Ці не даволі разважаць і перайсці да канкрэтных прапаноў? Становішча мовы ў рэспубліцы патрабуе паляпшэння. Я не думаю аб нейкіх адміністрацыйных загадах, смешна было беларусізаваць беларускую рэспубліку. Усю справу можа вырашыць добры прыклад. Лягчэйшым за ўсё іншае мне здаецца такі шлях. У нас праводзіцца шмат рэспубліканскіх нарад, урачыстасцей, святкаванняў. На іх выступаюць з дакладамі адказныя работнікі, якія ведаюць беларускую мову. Вось няхай бы гэтыя даклады рабіліся па-беларуску. Гэта задавала б тон і паказала павагу да мовы з боку кіраўніцтва рэспублікі. Добры прыклад пярэйдзе ў вобласць, а затым і ў раён. А то ж сапраўды нецікава атрымліваецца, што сакратары райкомаў і старшыні выканкомаў гавораць з народам не на яго мове. Мне думаецца, што такім шляхам можна дасягнуць большага кантакту і ўзаемаразумення.

Другое. Такія ўстановы, як Міністэрства культуры, Міністэрства асветы, могуць і павінны весці сваю работу па-беларуску. Калі беларускаю моваю загавораць міністры і іх шматлікія намеснікі, пачнуць праводзіць на гэтай мове паседжанні, пісаць, дык можна мець пэўнасць, што справа пойдзе на лад.

Само сабой зразумела, што ніякай цяжкасці не складзе і карыстанне мовай у творчых арганізацыях мастакоў, кампазітараў, у тэатрах. Укараненне мовы ў Акадэміі зробіць уплыў на ўкараненне яе ў навучальных установах. Выкладанне самой мовы і асноўных прадметаў на ёй справа не цяжкая. Кадры ёсць, падручнікі ёсць — трэба толькі паваротлівасць Міністэрства. Вядома, што колькасць беларускіх школ павінна быць павялічана і ўмовы ў іх павінны быць добрымі.

Я не майстар рабіць прапановы, іх трэба пашырыць і паглыбіць. Аб усім гэтым неабходна добра і ўважліва памеркаваць. ЦК знойдзе адпаведныя метады і сродкі. Пачаў жа я гэтую гаворку таму, што не мог не пачаць, таму, што адчуваю гэта сваім абавязкам перад партыяй і народам.

25.V.1956 г.

# З улікам традыцыі

**Нарэшце дачакаліся мы, беларусы, закона, які паставіў нашую мову на належнае ёй месца — абвясціў дзяржаўнай на тэрыторыі Беларусі. Добры закон прынялі ці дрэнны, пакажа час.**

**Сёння, здаецца, ужо для ўсіх відавочна неабходнасць перагляду існуючага правапісу і граматыкі беларускай мовы. Пытанне гэтае ўжо ўздымалася на старонках рэспубліканскага друку, і цяпер пасля прыняцця закона, яго трэба неадкладна вырашаць, пакуль яшчэ не пачалося масавае вывучэнне мовы насельніцтвам рэспублікі. Але застаецца адкрытым пытанне выбару найбольш рацыянальнага для беларускай мовы алфавіта. І тут мне прадбачыцца сапраўдная бура спрэчак. Таму я хачу падзяліцца сваімі думкамі.**

**Як вядома, беларуская мова мае вялікія традыцыі выкарыстання як кірылічнага так і лацінскага алфавітаў, і, я лічу, было б немалой стратай для нацыянальнай культуры знікненне аднаго з іх. Каб гэтага не здарылася, я прапаную паралельнае ўжыванне абодвух алфавітаў. Так, напрыклад, лацінку можна выкарыстоўваць у справаводстве, у навукова-тэхнічнай літаратуры, пры вывучэнні негуманітарных дысцыплін, пры друкаванні рэлігійнай літаратуры для беларусаў каталіцкага і ўніяцкага веравызнання, як гэта, прынамсі, было раней. Кірыліцу ж выкарыстоўваць у культурным жыцці, мастацкай літаратуры, гуманітарных навуках, праваслаўі і г. д. Тут, вядома, могуць быць розныя варыянты, тым больш, што пэўны вопыт у нас ёсць. І самае галоўнае, гэта адпавядала б гістарычнай ролі Беларусі, як краіны-памежжа між Захадам і Усходам, між заходняй і ўсходняй культурамі.**

**Я разумею, што ідэя мая шмат каму здасца фантастычнай, а магчыма і абсурднай. Толькі не хацелася б, каб яе адразу адкінулі, не ўзважыўшы ўсе «за» і «супраць».**

**А. КАПУЦКІ,**
**інжынер-канструктар.**
г. Маладзечна.

*Віншуем!*

# МІНСКАМ УЗГАДАВАНЫ...

**Валянціну ТАРАСУ — 60**



Тое, што я ведаю пра Валянціна Тараса, дае мне падставу сцвярджаць: гэты літаратар і сапраўды ўзгадаваны нашым Мінскам. Не толькі таму, што ў гэтым горадзе ён хлапчуком далучаўся да граматы і пачынаў дэкламаваць «Хлопчыка і лётчыка». Не толькі таму, што тут падлеткам-рамантыкам сутыкнуўся з бязлітаснай прозай вайны, якая патрабавала ад яго і ягоных аднагодкаў ужо амаль сталага ўмення выжываць, і тым вучыла суадносіць свае кніжныя ўяўленні з суровай рэчаіснасцю, з жорсткай праўдай побыту і быцця. Не толькі таму, што тут універсітэцкім студэнтам Валя Тарас трапіў у шумнае асяроддзе маладых талентаў, прагных і дасціпных, патрабавальных і ўдумлівых, — таго пакалення, якое на пачатку сваёй творчай дзейнасці сустрэла з надзвычайным уздымам славуты Дваццаты з'езд КПСС...

Бачыце, я толькі ўзяў «разгон», каб сказаць нешта пра майго сябра, а ўжо абазначыліся пэўныя вехі станаўлення прафесійнага літаратара. Не ведаю, магчыма, такое вызначэнне і пакрыўдзіць употайкі В. Тараса, асабліва ў юбілейным настроі, ды лічу ўсё ж найбольш поўным для характарыстыкі гэтага чалавека акурат гэта — ён літаратар па прызванні. Сам, мабыць, хацеў бы, каб яго лепш тытулавалі паэтам, празаікам і перакладчыкам. І жаданне такое зусім справядлівае. Бо на кніжнай паліцы аматараў лірычнай паэзіі не згубяцца ж, пэўна, ні «Два сшыткі» 1982 года, ні «Пазіцыя» 1987 года. Сярод кніг «пра вайну» сваё сталае месца заваявала і проза В. Тараса, сабраная ім у зборніку «Развітальныя вогнішчы». А пераклад ім у сааўтарстве з К. Шэрманам з іспанскай мовы архіскладанага па змесце і па мастацка-вобразнай мове рамана знакамітага калумбійца Габрыэля Гарсія Маркеса «Восень патрыярха» прынёс нашым землякам усесаюзную вядомасць (ды які тыдзень назад мы атрымалі «Новый мир» з перакладам В. Тараса быкаўскай «Аблавы»). Колькі сапраўдных дыяментаў паэтычнай тоеснасці рассыпана ў рускіх эквівалентах, зробленых Валянцінам для аднаўлення ў іншамоўнай структуры творчасці У. Хадыкі і С. Дзяргая, А. Астрэйкі і Р. Барадуліна, С. Гаўрусёва і Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага і Н. Гілевіча, Е. Лось і А. Бялевіча...

Канечне, ён — паэт. Вядома, ён — празаік. Ягоны аўтарытэт перакладчыка агульнавядомы. А я сцвярджаю, быццам Валянцін Тарас — «літаратар». Ці не знарочыстая гэта манера паарыгінальнічаць у слове пра юбіляра? Мабыць, не.

Справа ў тым, што з маленства ўмовы існавання як бы спрыялі станаўленню гэтай асобы як мастацкай. Доўгія гады, як яму маленькаму здавалася, ён жыў сярод зусім аднолькава блізкіх людзей — добрых і не надта, прыцішаных і гаваркіх, скандальных пасля чаркі і вясёлых спевакоў, рэлігійных адэптаў і гарэзлівых анекдотчыкаў. Праўда, адны з іх гаварылі па-беларуску, іншыя — на яўрэйскай мове, трэція — па-польску, а сышоўшыся разам, гаманілі па-руску. Стракатая грамада паўставала перад хлопчыкам на Камароўцы і на Ляхаўцы, у гарадскім трамваі і ў кінатэатры «Чырвоная зорка» на галоўным праспекце. Ды толькі ўсе людзі былі для яго чамусьці нібы родныя. Мінскія. Мінчане. Ці не з адчування гэтай еднасці ў яе стракатасці і гэтай стракатай згуртаванасці пачынаў падлетак спасцігаць навакольны свет!

Валянціну споўнілася трынаццаць, калі ён, каб вырвацца з жудаснай будзённасці акупіраванага горада, прыстаў да партызан, пачаў выконваць заданні падпольшчыкаў. Якое гэта выпрабаванне для маладой душы, вядома. Да таго ж будучы літаратар зразумеў, што на цяперашняй вайне няма «мірнага тылу», няма «нейтральных людзей». Можна хадзіць па вуліцы або блукаць па лесе, нібы «як усе», але ты ўсё роўна па-за еднасцю, бо яе няма: ты або «з нашымі», або «з імі». Голад і тэрор, сіроцтва і галеча гоняць нават малога ў вялікі свет змагання і рызыкі.

Калі чытаеш апавяданні і аповесці В. Тараса, далучаешся да такога вось мастацкага адкрыцця ўсёй трагедыйнай складанасці свету. Хлапечыя вочы і хлапечае сэрца — нібыта праз іх прымушае пісьменнік глядзець на тое, што ўжо было апісана і паказана іншымі мастакамі слова. Ды пэўны асаблівы пісьменніцкі тэмперамент і ў вытоках цнатлівы пачатак амаль кожнай «гісторыі» ў прозе В. Тараса надаюць ягонай творчасці штосьці адметнае. Я толькі што перагартаў нанава яго аповесць «Пад сузор'ем Льва», апавяданні «Адна конская сіла», «Карова цёткі Вінцэсіхі», «Выпадковы стрэл». Быццам раней і не ведаў іх; старонкі затрымлівалі, прымушалі ўважліва перачытваць і сачыць за прыгодамі персанажаў, агортвалі настроем суперажывання...

Калісьці некаторыя з гэтых сюжэтаў я чуў з вуснаў Валянціна. Так, нібы толькі «выпадкі» з жыцця падлетка на вайне. Наогул, трэба сказаць, што раней ён быў у нашым асяроддзі цікавым расказчыкам — анекдотаў і розных выпадкаў, парадыстам, умеў выдатна шаржыраваць. У ягоных жартах праступала і сталая ўмудронасць, але здаралася, што той жа Антон Бялевіч насцярожана казаў: «Валянцін добры хлопец, жвавы такі, але я пры ім не хацеў казаць...»

Насцярога А. Бялевіча не была выпадковай. Сапраўды, В. Тарас, здаралася, празмерна смела, як на тыя часы, выказваўся пра цэнзурныя шоры ў тэатральным мастацтве, пра злачынную абструкцыю некаторым тагачасным творам Васіля Быкава, пра свавольства рэдактарскага алоўка, пра лёс тых, чые магілы не ведаюць нават берыеўскія каты, якія расстрэльвалі ні ў чым не павінных людзей, асуджаных за «сувязь з ворагам народаў», за недавер да сталінскіх абяцанак, за трапны анекдот. «Балбатун», — аднаго разу сказаў нехта пра яго ў прысутнасці Антона Бялевіча, а той бліснуў вачыма і адрэзаў: «Не, не балбатун; ён — паэт, які прадчувае нешта, як сабака...» Мы ж ведаем, што «сабака» ў вуснах А. Бялевіча было самым пахвальным водгукам пра чалавека...

У тым, што піша ў вершах і ў прозе Валянцін Тарас сёння, адгукаецца многае з таго, што ім асабіста было перажыта і абдумана, і тое, што ён некалі — у даволі змрочныя часы нашага грамадскага жыцця — прадчуваў, як праўду, што чакае свайго мастацкага асэнсавання і вобразнага ўвасаблення. Прынамсі, я сам, разгортваючы «ЛіМ» або «Нёман» і заўважыўшы імя гэтага літаратара, пачынаю чытаць нумар з яго артыкула, з яго нарыса, з яго верша, з яго апавядання. Можа, гэта толькі так — па-сяброўску. Але ж я ведаю і іншых маіх знаёмых, якія робяць таксама. А гэта ў наш перанасычаны інфармацыяй час ужо неблагая характарыстыка для літаратара. Ці не праўда?

**Барыс БУР'ЯН.**

Кружкі і стрэлы.
Гарэла свечка на стале,
Адна гарэла.

На столі цені, як спалох,
Снавалі скоса.
Спляценне рук, спляценне ног,
Спляценне лёсу.

І чаравічкі ад штуршка
Спадалі з капы.
І воск слязамі з начніка
На плацце капаў.

Знікала ўсё у той імгле,
Завейнай, белай.
Гарэла свечка на стале,
Адна гарэла.

На свечку дзьмула з-пад акна,
І жар спакусы
Крыж-накрыж крылы развінаў,
Анёлам чуўся.

А люты замеццю шалеў,
Пакуль не днела,
Гарэла свечка на стале,
Праз ноч гарэла.

1946

## Хмель

Пад ракітай, абвітай плюшчом,
Ад дажджу мы шукаем прытулку.
Нашы плечы накрыты плашчом,
Абхапілі цябе мае рукі.

Я наблытаў. Ствалы ў хмызняках
Не плюшчом перавіты, а хмелем.
Лепш давай гэты плашч без развag
Пад сабою ушыркі рассцелем.

1953

## Цішыня

Працяты сонцам лес наскрозь.
Слупамі пылу промні ўранні.
Адсюль выходзіць, кажуць, лось
Дарог агледзець скрыжаванне.

Нікога ў лесе, цішыня,
Нібы жыццё ў глухой лагчыне
Не сонцам выснена да дня,
А па зусім другой прычыне.

І сапраўды, у цішы той
Сярод кустоў стаіць ласіха.
Замоўклі дрэвы перад ёй.
Таму і ў лесе гэтак ціха.

Лазу, асіннік, беразняк
Ласіха есць, прагоніць голад.
Яе хрыбет кранўў няўзнак,
Хістаецца на гольцы жолуд.

Іван-ды-Мар'я, зверабой,
Рамонкі, іван-чай, татарнік,
Заблытаныя варажбой,
Глядзяць маўкліва на гушчарнік.

Адзіны на ўвесь лес ручэй
У яры, поўным мілагучча,
Ляпеча ціха, то званчэй
Пра гэты выпадак выключны.

Так звонячы, што скрозь чуваць,
Аклікваючы лесасеку,
Ён нешта хоча расказаць
Амаль што мовай чалавека.

1957

## Ліпавая алея

Вароты з выгнутаю аркай,
Пагоркі, луг, лясы, аўсы,
У абгародцы—морак парка,
І дом дзівоснае красы.

Там ліпы ў некалькі абхватаў
Спраўляюць у цяні алей,
З'яднаўшы, як схаваўшы шаты,
Свой двухстагодні юбілей.

Яны сыходзяцца скляпеннем,
Унізе—кветнікі, лужкі,
Якія сцежкі, як праменні,
Перасякаюць напраскі.

Пад ліпамі, бы ў падзямеллі,
Нідзе прасветлін не відно;
І толькі ўводдалі тунелем
Святлее выхаду акно.

Ды надыходзяць дні цвіцення,
І ліпы—цесна ў платах—
Раскідваюць скрозь разам з ценем
Чароўны, прыцягальны пах,
Таму, хто цешыцца прыродай,
Прыемна ў парку удыхаць
Неразгаданы гэты водар,
Што толькі пчолам разгадаць.

І ён складае гэтым мігам,
Калі бярэ за сэрца ён,
Прадмет і змест сапраўднай кнігі,
А пераплёт—парк і газон.

На дрэве пышным і высокім,
Завешваючы зверху дом,
Адсвечваюць бутоны воскам,
Нібы запалены дажджом.

1957

## Нобелеўская прэмія

Быццам звер, і я ў загоне.
Дзесьці воля, свет людзей,
А за мною шум пагоні.
Выйсця мне няма нідзе.

Цёмны лес. Сцяна запруды,
Елка на шляху ляжыць.
Шлях адрэзаны усюды,
Мне ўсё роўна, так і быць.

Што, я з гадасцю ў хаўрусе,
Злодзей я, забойца, згой?
Плакаць я ўвесь свет прымусіў—
Над красой зямлі маёй.

Хоць і блізка час жалобы,
Прыйдзе, веру я, пара,
Сілу подласці і злобы
Пераможа дух дабра.

1959

Пераклаў Юрась СВІРКА.

## Гамлет

Гул знямеў. Шукае крок падмосткі.
Я стаю спіной да вушака,
Слухаю, як плачуць адгалоскі,
Як варожыць пра нябыт рука.

На мяне глядзіцца воран ночы
Тысяччу біноклямі-вачмі.
Калі можна, божа святы, ойча,
Чашу яду з грэшных рук вазьмі.

Я люблю твой грозны лік у раме,
Ды цяпер мне ў гэтай ролі быць—
Нечуваная сягоння драма,
Свечка на ўспамін душы гарыць.

Ведаю: загіну ў крык-зладзействе.
Шлях зваротны болю не знайсці.
Я адзін. Міг тоне ў фарысействе.
Век пражыць—не поле перайсці.

1946

●

Эх, знаў бы я, што так бывае,
Калі імкнуўся на дэбют,
Што верш з крывёю—забівае,
Смяротны выдае прысуд.

Ад жартаў з гэтай падаплёкай
Адмовіўся б—і хлапчуком.
Пачатак слоў такі далёкі.
Адмоўлены натхнення гром.

Ды старасць—гэта Рым антычны,
Дзе ўся гісторыя—кур'ёз;
Акцёр часоў тых драматычных
Пагібеллю канчаў свой лёс.

Калі ж радок дыктуюць нервы,
Пачуцці ў рабстве забыцця,
Тады замест мастацтва—неба,
Зямлі дыханне і жыцця.

1932

●

Любіць не тых—іудаў крыж,
А ты—красуня ў дар пагрозам:
Сакрэт не выдаеш, маўчыш,
Загадкаю звянчана з лёсам.

Вясной чуваць размовы сноў,
Навін зняменне, вокліч ісцін,
А ты з сям'і такіх высноў—
Твой сэнс, як зоркі, без карысці.

Прачнуцца лёгка й зразумець,
На смецце слоў лінуць палітрай,
І болей бруду не хацець—
Маленькая ўсё гэта хітрасць.

1931

Пераклала Валянціна АКОЛАВА.

і К°)», «...заведамага паклёпніка пана Заслаўскага» (ПСС, т. 49, с. 441; т. 34, с. 91—93; т. 32, с. 38).

Пастарнак пастаянна выходзіць у сваёй прамове на тыя болевыя кропкі, якія стануць вызначальнымі для яго асуджэння. Ён загадзя прамым тэкстам сцвярджае, спрабуе давесці якраз тое, што не даруюць ідэалагічныя першасвяшчэннікі ў 1958 годзе — прабыць Паэтам.

**Са стэнаграмы: «Я не ведаю, у сілу якіх прычын мяне страшэнна раздуваюць, увогуле мяне значна перабольшваюць. Я, як і кожны з вас, нешта рэальнае, я не празрысты, мяне трэба рэнгенезіраваць, каб нешта атрымалася. Я — цела ў прасторы. І дзякуючы гэтаму перабольшанню, у мяне расце нейкая гара, і з жабы вырастае вол. Я ў гэтым не вінаваты і, акрамя таго, гэта перашкаджае мне існаваць.**

**...Мяне лякалі як нейкім бар'ерам тым, што я ў якісьці вечар не паехаў на завод. Я сабе не ўяўляў, што гэта такая небяспека — гэта не так цяжка паехаць на завод. Не ў гэтым справа. Нашы заводы трэба глядзець, але Безыменскі параіў мне ездзіць чытаць вершы. Для вас гэта справа зусім устаноўленая. Але, разам з тым, з той традыцыяй, з якой я пачаў, гэта далёка не ўстаноўлена.**

**...Тут прыводзілі цытаты наконт таго, што гэтыя вершы дрэнныя, гэтыя добрыя і г. д. І мне кінулася ў вочы, што ад радкоў адмяжоўваюцца як ад памылковага погляду. Мы таксама працуем у гэтай галіне і ведаем, што гэта не парламент, не што-небудзь іншае.**

**...Справа ў тым, што трэба нам некалькі вальней і смялей думаць і ўяўляць. Гэта справа кожнага. На тое і розум дадзены, і галава, акрамя сэрца, ды і сэрца ў гэтым напрамку дадзена. Гэта наша задача. Але гэта не задача пленума, каб вам сказаць: будзьце больш смелыя. Гэта задача кожнага з нас. Я не памятаю ў нашым заканадаўстве дэкрэта, які б забараняў быць геніяльным».**

Але не было і дэкрэта, які б дазваляў геніяльнасць... У 1958 годзе рэхам адгукнуліся ўжо самыя першыя словы з выступлення Пастарнака — і менавіта тут, у Мінску, на расшыраным пасяджэнні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. «Старэйшыя нашы беларускія пісьменнікі помняць пленум Саюза пісьменнікаў, які адбыўся ў 1936 годзе ў Мінску,— гаварыў намеснік старшыні праўлення СП БССР М. Калачынскі, — і вось выступіў Пастарнак і першае, што ён сказаў: «Я сёння ўсю ноч не спаў, а таму выбачайце, калі што-небудзь змарожу». І вось наступіў момант, калі ён «змарозіў»... (Доўга ж, паводле Калачынскага, пакутаваў Пастарнак ад бяссонніцы).

На парадку дня пасяджэння праўлення СП БССР стаяла адно пытанне — абмеркаванне паводзін паэта Б. Пастарнака, не сумяшчальных са званнем савецкага пісьменніка. 29 кастрычніка, у дзень сходу, «Літаратура і мастацтва» перадрукавала з «Литературной газеты» пастанову прэзідыума праўлення СП СССР, бюро Аргкамітэта СП РСФСР і прэзідыума праўлення яго Маскоўскага аддзялення, дзе абвяшчаўся прысуд: «Улічваючы палітычнае і маральнае падзенне Б. Пастарнака, яго здраду ў адносінах да савецкага народа, да справы сацыялізму, міру, прагрэсу, аплочанае (так у арыгінале) Нобелеўскай прэміяй у інтарэсах распальвання халоднай вайны» вышэйпералічаныя органы «пазбаўляюць Б. Пастарнака звання савецкага пісьменніка, выключаюць яго з ліку членаў Саюза пісьменнікаў СССР».

Фактычна ад беларускіх пісьменнікаў патрабавалася толькі тое, што сціпла, у дужках, паведамлялася пад маскоўскай пастановай: «прынята аднагалосна». Адкрыў пасяджэнне старшыня праўлення СП БССР П. Броўка. Яго словы «Пастарнак — смецце, ён не заслугоўвае ні звання савецкага пісьменніка, ні звання грамадзяніна, а наша літаратура пойдзе далей пад кіраўніцтвам нашай Камуністычнай партыі» былі сустрэты апладысментамі. Пад іх прывычны шум у прэзідыуме мог спакойна спаць сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі Ц. С. Гарбуноў, які прыйшоў прасачыць за «аднагалоснасцю» — нечаканасцей не чакалася. Але, як сведчыць стэнаграма «спрэчак», не ўсе думкі ўдзельнікаў сходу супалі адна з адной.

Першы прамоўца паведаміў пра ганебныя паводзіны Пастарнака, які сядзеў, закрыўшыся на дачы, чатыры гады не плаціў членскія ўзносы і своечасова не прарэгістраваўся; згадаў студэнцкую дэманстрацыю з плакатам «Выгнаць з саюза здрадніка Пастарнака» і пад канец заявіў: «Увесь савецкі народ, усе простыя людзі аднадушна асуджаюць здрадніка, які прадаўся амерыканцам як Іуда». Гэта быў нечаканы ход, бо Фельтрынелі, выдавец «Доктара Жывага», жыў у Мілане і па логіцы вынікала, што Пастарнак прадаўся італьянцам.

Такое адступленне ад сацыялістычнага рэалізму крыху паправіў наступны прамоўца, калі зблізіў кантыненты, атаясаміўшы ЗША і Швецыю: «Гэты літаратурны сноб, гэты пабornік мастацтва дзеля мастацтва, гэты паэт, якога сапраўды многія з нас не разумелі (дарэчы, я яго таксама не разумеў), ператварыўся ў звычайнага здрадніка народа. Нам зусім зразумела ўся падаплёка прысваення яму Нобелеўскай прэміі. Па ўказцы ЗША надзяляюць іудавымі срэбраннікамі такіх, як Пастарнак».

Каб не трапіць у якую-небудзь гісторыю з геаграфіяй, трэці абачліва ахарактарызаваў Пастарнака як унутранага эмігранта і перавёў гаворку ў больш блізкую для сябе сферу батанікі: «Каля яго было невялікае акружэнне, якое лебязіла перад ім. Гэта тая грыбная цвіль, з якой вырастаюць мухаморы. Такі мухамор і вырас на гэтай гнілі, хоць і чырвоны і для некаторых вельмі прывабны. Цяпер, калі гэты мухамор сапраўды паспеў, стаў больш ядавітым, нашы ворагі знайшлі патрэбным выкарыстаць яго супраць нас». Праўда, байкапісец забыўся, што ва ўмовах распальвання халоднай вайны флора, як і фауна, патрабуюць пільнага класавага падыходу. Нешта ідэалагічна няспелае атрымалася з колерам і, акрамя таго, мухаморам, як вядома, труцяць мух. Узнікае пытанне: з кім тады прамоўца параўнаў савецкіх людзей?..

Ад імя навукі ўнесці яснасць узяўся тагачасны дырэктар інстытута літаратуры. На жаль, працытаваць яго няможна, бо сінтаксіс і семантыка прамовы член-кара АН БССР апынуліся па-за межамі разумення стэнаграфісткі. Тэкст выступлення ўяўляе сабой слоўны масіў, дзе па прынцыпу частотнасці вылучаюцца эпітэты на «анты», а таксама злучнікі, адносныя займеннікі і іншыя службовыя часціны мовы. Як сведчаць сёння ўдзельнікі таго пасяджэння, прамоўца паспрабаваў выйсці за рамкі зададзенай тэмы, нечакана заявіўшы: «Гэты празрэнны Пястрак» — але быў спынены раз'юшаным П. Пестракам, які ў сваю чаргу запатрабаваў, каб акадэмік гаварыў па паперцы, на тое ён і акадэмік. У скарочаную стэнаграму гэта навуковая дыскусія не трапіла.

Аднак імпульс да творчасці не згас. Неўзабаве слухачы даведаліся, што Пастарнак — контра (А. Зарыцкі), крыніца фашызму (П. Пестрак), горшы за злодзеяў-рэцыдывістаў (Д. Палітыка). Справядлівасць апошняга сцвярджэння мог пацвердзіць У. Дубоўка, які нядаўна вярнуўся са сталінскіх лагераў, дзе любы забойца стаяў куды вышэй за палітычнага. Але ён пачаў гаварыць нешта няўцямнае пра кітайскую літаратуру і калі б не традыцыйная канцоўка, яго выступленне можна было б расцаніць як вылазку былога ворага народа. Асабліва — на фоне такой заявы: «Можа, не толькі адзін такі мухамор Пастарнак вырас, можа быць, ёсць і яшчэ такія мухаморы. Я памятаю, што выступаў Эрэнбург і абвясціў Слуцкага народным паэтам. Я чытаў яго вершы і пераканаўся, што так можа пісаць толькі гад, а не савецкі чалавек. Таксама мне не спадабалася нядаўна перавыдадзеная кніга Бабеля аб конарміі».

Проста і па-рымску прама. Не тое, што блытанае выступленне М. Хведаровіча, які ўспамінаў пра сустрэчу з Пастарнакам на маскоўскай нарадзе паэтаў у 33 годзе, пра яго прыезд у Мінск у 36-м. «Выступленне Пастарнака (у 1936-м) пацвердзіла тое, аб чым ён гаварыў на нарадзе ў 1933 годзе. Пастарнак не зрабіў ніякага руху наперад і пасля гэтага ні адна кніга яго не выйшла». У Пастарнака выйшлі тры зборнікі ў 40-я гады, але на лесапавал, дзе працаваў тады вораг народа Хведаровіч, кніжныя навінкі не завозілі. Як высветлілася ў 1958 годзе, сярод успамінаў аб волі, якія дапамагалі выжыць вязням Гулага, у Хведаровіча была і памяць пра сустрэчы з Пастарнакам...

**(Працяг на стар. 10—11).**

дзенае. Праўда, гэта натуральная з'ява пры нашай дрэннай інфармаванасці адносна таго, чым жыве апошнія дзесяцігоддзі навакольны свет. Але нават маючы самую аб'ектыўную культурную інфармацыю пра замежжа, мы не здолеем яе па-людску скарыстаць, пакуль не пазбавімся комплексу правінцыялізму і нацыянальнага нігілізму. Пакуль свядома не станем на ўласны грунт. Пакуль не павернемся тварам да Беларусі. На «Панараме» было тое, што ў больш якасным выкананні можна пабачыць у Маскве, Прыбалтыцы. Я маю на ўвазе культуру колеру, кампазіцыйную пабудову, адпаведнасць выяўленчых сродкаў задуме мастака. У нас — шмат легкаважнага, выпадковага, недзе пабачанага, пачутага, але не праведзенага праз сэрца і розум.

Калі тэатр пачынаецца з вешалкі, дык выстава «Панарама» пачыналася з вуліцы. У дзень адкрыцця экспазіцыі ішоў дождж, на вуліцы — велізарныя лужыны, холад. Ды і сам інтэр'ер гэтай часткі горада паміж Ленінскім праспектам і Траецкім прадмесцем наводзіў на сумныя думкі. Старыя, даўно не фарбаваныя будынкі, велізарны плот, за якім метрабуд гвалтуе Мінскае замчышча. Толькі белая постаць Кафедральнага сабора ўносіла аптымістычны дысананс у гэту паэму смутку, працягам якой (другім раздзелам) была сама экспазіцыя «Панарамы». Часам цяжка было зразумець: што гэта, ці не паспелі вымесці з пакоя смецце, ці гэта так задумана аўтарамі экспазіцыі? На сценах карціны, а побач, на брудным умывальніку — кавалак мыла. Гэта мастак намякае на картачную сістэму, да якой мы дажыліся на 72 годзе, ці гэта проста так? Шмат падобных пытанняў узнікала ў мяне на выставе. Але былі творы і з выразнай сацыяльнай скіраванасцю. Напрыклад, інсталяцыя «Пастфактум» (аўтар Я. Шунейка) — гэта кампазіцыя з прадметаў, якія, сабраныя разам, становяцца нібыта сімвалам нашага супярэчлівага, знерваванага і трагічнага часу. Кампазіцыю вянчае рыдлёўка, лязо якой пафарбавана чырвоным, пад колер крыві... А праз вокны, як дапаўненне экспазіцыі, мінскія краявіды. Усяго патроху — то дахоўка падобная на тэатральную дэкарацыю Траецкага, то брудны двор з будаўнічым смеццем, то гмахі праспекта Машэрава. ць ты бяры дадатковую плату за выставу гарадскога пейзажу.

Зноў вяртаюся да тэмы прафесіяналізму. Сённяшні, прынамсі беларускі, авангард чымсьці нагадвае славутую шахматную партыю Астапа Бэндэра ў Васюках. Маючы даволі цьмянае ўяўленне, што такое шахматы, «вялікі камбінатар» адразу разыграў класічны дэбют. Справа ў тым, што каб разыграць «класічны дэбют» у авангардысцкім мастацтве, зусім неабавязкова ўмець маляваць. Дастаткова паставіць на палатне кропку, пляму, правесці лінію ці проста плюнуць і расцерці, як ты аўтаматычна трапляеш у нейкі класічны (у сваёй мастацкай сістэме) напрамак — трансавангард, абстрактны ці геаметрычны абстракцыяналізм, супрэматызм і гэтак далей. Гэта разбэшчвае, бо мастак спадзяецца не на ўласныя сілы і талент, а на тое, што яго асвеціць святло далёкай зоркі, што ягонае «нямое» палатно агучыць далёкая музыка, і ўсё ўрэшце растлумачаць крытыкі. Такі настрой называецца спажывецкім. Асабіста мне найбольш цэльнай і лагічна абгрунтаванай падалася экспазіцыя віцебскай групы «Квадрат». Можа, таму, што свой прафесіяналізм яе ўдзельнікі выяўляюць у формах не надта далёкіх ад рэалістычных.

Адзін мастак пасля наведання выстаўкі сказаў: «Гэта сапраўды падобна на нашае жыццё. Пасля такой выстаўкі ты не здзівішся, калі на вуліцы табе надаюць па пысе хуліганы, аблае прадаўшчыца ў краме, а на заканчэнне, калі ты прыйдзеш дадому, у дзверы пазвоніць рэкецір». Што ты зробіш, калі надвор'е не спрыяе настрою. Калі па дарозе да гармоніі ці проста нармальнага жыцця трэба зведаць дождж і холад, трэба скакаць праз лужыны і брысці бруднымі дварамі. Кажуць, што зоркі выглядаюць ярчэй, калі глядзіш на іх не з вяршыні гары, а з глыбіні памыйнай ямы. Відаць, гэта якраз той выпадак.

І яшчэ колькі слоў пра выставу, якая праходзіла адначасова з «Панарамай», літаральна за некалькі крокаў, у выставачнай зале на праспекце Машэрава. Яна мела даволі прэтэнцыёзную назву «Скарбы беларускага авангарда». Арганізавана была цэнтрам «Арыенцір» пры ЦК ЛКСМБ. Поспеху, на які разлічвалі арганізатары, выстава не мела. Ці то «Панарама» адбіла гледачоў у «Скарбаў...», ці то дзве выставы аднаго напрамку побач — замнога. У «Скарбах...» былі прадстаўлены тыя ж імёны, што і на «Панараме». Праўда, адбор быў больш строгі. Меншым быў элемент выпадковасці, але разам з тым знікла і такая прыцягальная для гледача непасрэднасць, імправізаванасць. Ва ўступным слове да каталога «Панарамы» ёсць такія радкі: «Авангард неабходны, таксама як і любы іншы напрамак у мастацтве, усякаму грамадству, якое лічыць сябе развітым культурна і эканамічна». Асабіста я не ўпэўнены, што нашу краіну можна аднесці да ліку развітых культурна і эканамічна. А гэтая неразвітасць накладвае адбітак і на савецкі авангард і на ўсё астатняе мастацтва. Авангард у поўным сэнсе — гэта «гульні ў Захад». Аднак у Еўропе апошні раз разбуралі старую культуру ў імя будаўніцтва светлай будучыні 200 гадоў назад, пад час Вялікай Французскай рэвалюцыі. І дзякуй богу, не паспелі ў гэтай справе шырока разгарнуцца. Таму сёння там любы новы мастацкі кірунак — гэта проста новае звяно ў ланцугу культурнай эвалюцыі.

Іншая справа ў нас. Наш авангард чымсьці нагадвае прыгожы дзядоўнік, які вырас сярод смецця на падмурку зруйнаванага (зусім нядаўна) Храма. Цяжка сказаць, які лёс чакае гэтую расліну, калі храм пачнуць адбудоўваць.

нам ведаць тое, супраць чаго крычым». Гэты запіс пад назвай «Прыкрасць» надрукаваць Брылю ўдалося праз 8 гадоў, у 1968-м. (Начытаўшыся Брыля, ў 1980-м я вяртаўся з паездкі на Мальту з англійскамоўным «Доктарам Жывага» за пазухай. Таможню прайшоў без страт. Дома адкрыў: раман чамусьці пачынаўся, як п'еса, з пераліку дзеючых асоб, тлумачылася, дзе імя, імя па бацьку, чаму Лара і Ларыса Фёдараўна — адна і тая ж асоба; перакладчыкі прасілі прабачэння за недасканаласць... Прачытаў першы раздзел і паставіў кнігу на паліцу. Чакаць «Новый мир» давялося таксама восем гадоў).

...И вот, бессмертные на время,  
Мы к лику сосен причтены  
И от болезней, эпидемий  
И смерти освобождены...

Бессмяротная толькі паэзія. Ніхто не вызваліць нас ад памяці, якой бы балючай яна ні была. Я вяртаўся з Перадзелкіна. У цэлафане ад гваздзікоў ляжала зямля і сасновая шышка з магілы паэта. У кожным смалістым семачку чакала свайго часу стромкая, як паэзія Пастарнака, сасна. Сёлета пасаджу, павінна прыжыцца — усё ж у нас на Беларусі спрыяльная глеба.

Аляксандр ЛУКАШУК.

# ПЛАНЫ НА ЗАЎТРА

**У Саюзе тэатральных дзеячаў БССР адбылося чарговае пасяджэнне секцыі харэаграфіі. Члены секцыі, якой кіруе доктар мастацтвазнаўства, загадчык кафедры Мінскага інстытута культуры Ю. Чурко, прыгадалі найбольш важкія і значныя падзеі ў харэаграфічным жыцці рэспублікі, якія адбыліся летась, а таксама абмеркавалі кірункі працы на 1990 год.**

**Акрамя традыцыйнай штогадовай работы па абмеркаванню прэм'ерных спектакляў Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР і Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР, аналізу асвятлення музычна-тэатральнага працэсу ў рэспубліцы, мяркуецца правесці сіламі членаў секцыі, а таксама запрасіўшы вядомых у краіне спецыялістаў, рэспубліканскую канферэнцыю «Балеты спадчыны на сцэне ДАВТа БССР». Апошнія сезоны, калі на сцэне тэатра з'явіліся новыя рэдакцыі балетаў «Лебядзінае возера», «Жызэль», «Дон Кіхот» (у сярэдзіне лютага мяркуецца прэм'ера «Спячай красуні»), даюць спажыву для роздуму аб лёсе і ўвасабленні класічных спектакляў.**

**Стварэнне нацыянальнага спектакля заўсёды з'яўляецца падзеяй у мастацтве. Таму ў планах дзеячаў харэаграфічнага мастацтва — правесці «круглы стол» па абмеркаванню балета «Рагнеда», над якім зараз працуе кампазітар А. Мдзівані, запрасіўшы для ўдзелу ў ім кампазітараў, гісторыкаў, прадстаўнікоў прэсы, радыё, тэлебачання.**

**Прафесійны артыст і крытык не можа існаваць без новых глядацкіх уражанняў, ведання, што робіцца за межамі тэатра, рэспублікі. Таму секцыя харэаграфіі плануе арганізаваць паездку групы дзеячаў балетнага тэатра і балетных крытыкаў на гастролі аднаго з найбольш вядомых у свеце Гамбургскага балета пад кіраўніцтвам Дж. Наймайера, якія павінны адбыцца сёлета ў Маскве; накіраваць групу членаў секцыі на фестываль імя В. Няжынскага, які пройдзе ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве.**

**Пасля абмеркавання плана работы секцыі на наступны год выступіла кандыдат мастацтвазнаўства Э. Шумілава, якая падзялілася ўражаннямі ад спектакляў оперна-балетнага фестывалю, які мінулай восенню праходзіў у балгарскім горадзе Стара Загора і сабраў дзесяць тэатраў з васьмі гарадоў краіны (у 1981 годзе беларуская балетная трупа ўдзельнічала ў гэтым прадстаўнічым форуме). Ю. Чурко расказала прысутным аб міжнароднай сустрэчы балетазнаўцаў і балетных крытыкаў у Маскве, у якой ёй давялося ўдзельнічаць. Пад час форуму савецкія крытыкі сустракаліся з замежнымі выдаўцамі з Англіі, Швейцарыі, Венгрыі, Аўстрыі. Інфармаванасць, дасведчанасць у працэсах, якія адбываюцца ў харэаграфічным мастацтве асобных рэспублік неабходна сёння, калі ўсё часцей балетныя трупы краіны выязджаюць на гастролі за мяжу.**

**НАШ КАР.**

# «Нам толькі незразумела...»

**Адкрыты ліст салістцы Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Марыі ГУЛЕГІНАЙ**

Марыя Агасаўна!

У інтэрв'ю газеце «Звязда» (24.01.90 г.) Вы з непавагай выказаліся пра сваіх калег з ДАВТа, які даў Вам для творчасці ўсё, назваўшы ці абазваўшы іх «шэрай масай». Непаважліва, ці хутчэй абразліва, выказаліся Вы і наконт калег па кафедры спеваў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе Вы працуеце «пачасавіком» з 1986 года: «Прыйшла на кафедру спеваў і жахнулася: узровень ніжэй нулявога... Некампетэнтнасць татальная». На такую «ацэнку» Вы, тады яшчэ «ўчарашняя студэнтка», як нам здаецца, не мелі маральнага права, дый яна зусім не адпавядае меркаванням вядомых прафесараў краіны: І. Ціца, Т. Веске, З. Паўлаўскаса, Н. Шпілер, Г. Анціпава і іншых.

Хацелі б нагадаць, што з 1976 па 1986 г. кафедрай кіравала народная артыстка СССР прафесар Т. М. Ніжнікава. Яна як вядучая салістка ДАВТа БССР на працягу 25 гадоў, а потым як выкладчык і кіраўнік кафедры ўнесла вялізны ўклад у развіццё беларускага нацыянальнага мастацтва. Вы ж адным махам скрэслілі фактычна ўсё творчае жыццё спявачкі і педагога. Ды і не яе адной, бо на кафедры ў той перыяд працавалі, працуюць і цяпер, большасць з тых, хто падпісаў гэты ліст. Сярод іх і настаўнік Вашага мужа (а ў яго, што не адмаўляеце і Вы, добрая вакальная школа) — народны артыст БССР прафесар А. М. Генералаў.

Менавіта ў тыя гады выхаванцамі кафедры былі заслужаныя артысты БССР В. Скарабагатаў і Р. Харык, заслужаны артыст РСФСР А. Баскін, салісты ДАВТа БССР В. Цішына, Г. Чэпікаў, Л. Крывёнак, Н. Руднева, А. Кеда, М. Рысаў, Н. Залатарова і многія іншыя вакалісты, якія з поспехам працуюць у музычных тэатрах і канцэртных арганізацыях. Няўжо гэта іх Вы ў сваім інтэрв'ю назвалі «шэрай масай»? Калі так, мы з Вамі пагадзіцца не можам. Цяпер у трупе ДАВТа працуе каля 30 выпускнікоў БДК, а таксама каля 20 выпускнікоў іншых кансерваторый краіны, якіх запрашалі, палічыўшы за лепшых, былыя галоўныя дырыжоры, шаноўныя і для нас, і для Вас Я. А. Вашчак і Г. П. Праватораў.

Як мы зразумелі з інтэрв'ю, толькі са сваімі вучнямі (іх Вы ўладкавалі ў стажорскую групу тэатра, хоць яны і не мелі на тое прафесійных падстаў) Вы звязваеце магчымасць «ажыўлення» тэатра. Здаецца, Вы імкнецеся стварыць сабе рэпутацыю выдатнага педагога і ўсемагутнага чалавека: «Многія хацелі б да мяне перайсці, дык усіх жа не возьмеш». Зараз, наколькі нам вядома, ні вусных, ні пісьмовых заяў у Ваш клас ад студэнтаў няма...

Зневажаюць некаторыя Вашы ацэнкі і цяперашняга загадчыка кафедры спеваў дацэнта Л. П. Івашкова, які нядаўна абараніў кандыдацкую дысертацыю і які запрасіў Вас на работу ў кансерваторыю. 20 выпускнікоў Леаніда Пятровіча працуюць у тэатрах і канцэртных арганізацыях рэспублікі і краіны, маюць ганаровыя і лаўрэацкія званні. Таму даваць такія «ацэнкі» з Вашага боку, калі Вы не выхавалі яшчэ ніводнага спевака, нясціпла.

Вядома, у рабоце кафедры, як і любога педагога, ёсць і могуць быць недахопы. Вельмі дрэнна, калі з каго-небудзь не атрымаўся артыст. Вядома, гэта ўплывае на лёс чалавека. Такая наша доля: мы працуем не з металам ці з дрэвам, і нашы педагагічныя памылкі дорага каштуюць, але, на жаль, ад іх ніхто не застрахаваны. Сумняваліся, а потым навэт адмовіліся ад педагагічнай дзейнасці найвядомыя спевакі: Э. Каруза, С. Лемешаў, Л. Александроўская, зразумеўшы, што плённая выканаўчая дзейнасць не гарантуе поспехаў у педагагічнай рабоце.

Вы — выкладчык-пачатковец. Тут Вашы поспехі, а, магчыма, памылкі і няўдачы наперадзе. Але вось наколькі маеце Вы права быць педагогам-выхавацелем? Мы ж выхоўваем не толькі прафесійных спевакоў, але і людзей, асоб. Ці будуць Вашы выхаванцы прыстойнымі, сціплымі людзьмі? Бо ўжо цяпер, будучы студэнтамі, яны фанабэрыста, ледзь-ледзь вітаюць (а то і зусім не робяць гэтага) у кансерваторыі — выкладчыкаў, у тэатры — салістаў. Ці не зоймуцца яны ў будучым на выкладчыцкай рабоце прыпіскамі адпрацаваных гадзін, як гэта зрабілі Вы? Мы лічым, што ўсё ж голас — не галоўная вартасць чалавечай асобы. Перайначыўшы выказванне паэта, хацелі б сказаць, што спевакамі можам мы і не быць, але людзьмі быць абавязаны.

Вы — вядомая спявачка. І ў Вас яшчэ ўсё творчае жыццё наперадзе. Ваша жаданне «ўзняць планку» ва ўзроўні нашага беларускага нацыянальнага музычнага мастацтва можна толькі ўхваліць. Але пакуль што гэта толькі словы. Як Вы гэтага збіраецеся дамагчыся? Ваша работа за мяжой і амаль бяздзеянне ў ДАВТе БССР не спрыяюць гэтаму. Разам з тым, адмаўляючыся ад спектакляў і выступіўшы ў тэатры за паўгода толькі адзін раз, Вы не адмаўляецеся ад зарплаты, як Вы кажаце, у 300 рэ!

Марыя Агасаўна! Мы згодныя з Вамі, што многія «... сталі вельмі злыя адзін на аднаго». Лічым, што гэта мае дачыненне і да Вас. Нам толькі незразумела, адкуль у Вас столькі злосці? Усё, што змагла Беларусь, яна дала Вам.

У большасці супрацоўнікаў кафедры ёсць падставы сумнявацца, як будзе працягвацца Ваша работа ў кансерваторыі.

**Педагогі кафедры спеваў БДК: загадчык кафедры дацэнт Л. ІВАШКОЎ; нар. арт. СССР прафесар Т. НІЖНІКАВА; нар. арт. СССР А. САЎЧАНКА; нар. арт. БССР прафесар А. ГЕНЕРАЛАЎ; нар. арт. РСФСР Э. ПЕЛАГЕЙЧАНКА; народныя артысты БССР Л. ГАЛУШКІНА, Л. БРАЖНІК, І. ШЫКУНОВА (лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР); дацэнт К. ДРАЗДОВА; заслужаныя артысты БССР Л. КОЛАС, Л. КАСПОРСКАЯ; выкладчык А. МУРЗІЧ.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Імя opернай «зоркі» Марыі Гулегінай неаднойчы з'яўлялася на старонках «ЛіМа». Толькі ў мінулым нумары быў змешчаны водгук на тэлеперадачу пра яе — «Брава, Марыя!» Тым часам рэдакцыя атрымала калектыўны ліст — водгук на інтэрв'ю М. Гулегінай, змешчанае ў «Звяздзе». Ліст мы надрукавалі. Мяркуем аднак, што маральна-псіхалагічныя праблемы, якія ўзніклі на кафедры спеваў, — далікатныя, унутраныя, абгаворваць іх лепш таксама на кафедры. Таму і каменціраваць сітуацыю, якая склалася на кафедры і ў опернай трупе ДАВТа, з нашага, «трэцяга» боку было б справай некарэктнай. Яна, відаць, ой якая няпростая, бо нават пад гэтым, здаецца, непрадузятым лістом не паставілі свае подпісы некаторыя выкладчыкі — вядомыя вакалісты.**

**Жыццё артыстаў, жыццё тэатра — гэта вязьмо супярэчнасцей, канфліктаў, страсцей, і капрызаў. Так было ва ўсе часы. Вядома, крыўдна, калі непаразумеласці ўзнікаюць паміж людзьмі, якія, кожны ў меру сваіх мажлівасцей і паняццяў, шчыруюць на карысць мастацтва. Ад такіх непаразумеласцей церпяць найперш яны самі, а заадно і мастацтва. Так і хочацца выгукнуць: «Людзі, давайце жыць мірна!» Узаемныя прэтэнзіі, папрокі ды крыўды і спараджаюць тое самае. Усё менеј чытаем ды чуем навокал добрых слоў. Будзем жа спагаднымі, велікадушнымі, ветлівымі да тых, хто побач, і больш строгімі да сябе.**

**АДДЗЕЛ МУЗЫКІ «ЛіМа».**

# ПА-ЗА МЕЖАМІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА?

(Пачатак на стар. 5).

**Опасность, некоторая двусторонность лозунга «самоопределение» сказалась на деле: им воспользовалась мелкая буржуазия. Но насколько слабо ее влияние в пролетарских массах, настолько сильно в этих массах классовое самосознание, в противовес национальным предрассудкам, — это показал всебелорусский Съезд Советов, вырвавший корень зла и оздоровивший тем советско-государственный организм Белоруссии...**

**Только в единении с международным пролетариатом всех национальностей, — российским, германским, литовским, польским, латышским и так далее, — белорусский пролетариат, при полном отсутствии национального антагонизма к ним, добьется своего окончательного освобождения через коммунистическую революцию».**

Ці можна пасля такіх публікацый здзіўляцца, што яшчэ тады смяротная пагроза навісла над З. Жылуновічам, Я. Дылам і іншымі дзеячамі, а камуніст паэт Фабіян Шантыр быў знішчаны. Нігілізм і экстрэмізм канца 20-х гадоў, што неўзабаве перарос у шырокамаштабны тэрор, з'явіўся не на голым месцы, не быў выдумкай аднаго толькі Сталіна, а зарадзіўся яшчэ ў агні грамадзянскай вайны. Іменна ў метадах вырашэння канфліктаў у першыя паслякастрычніцкія гады бачацца вытокі трагедыі канца 20-30-х гадоў, калі найбольш экстрэмісцкая палітычная лінія ва ўсім дзяржаўным будаўніцтве, у ідэалогіі і ў нацыянальнай палітыцы ўзяла верх, святкавала перамогу.

У артыкуле не хаваецца разрыў паміж *словам і справай, паміж лозунгамі і* рэальнымі адносінамі да іх. Так узаконьвалася падвойная мараль: адна для лозунгаў, другая — для практычнай дзейнасці, адна — на паказ, для свету (якія мы добрыя!), а другая — для сябе.

АМАЛЬ да самага апошняга часу наша гістарычная навука расцэньвала падзеі перыяду чарговых акупацый Беларусі і ўсёй грамадзянскай вайны, быццам бы пазіраючы на іх са штаб-кватэры Мяснікяна. Але гэты НП (назіральны пункт) нельга лічыць надта надзейным, таму што ён ствараўся з думкай аб сусветнай рэвалюцыі, для маштабаў якой лёс нейкіх там беларусаў не павінен быў і не мог мець ніякага практычнага значэння.

А як бачылася нацыянальная праблема з другога боку барыкад (а больш дакладна — паміж барыкадамі, сярод якіх былі заціснуты, як распаленымі абцугамі, беларускія сёлы і гарады), у асяроддзі тых дзеячаў, якія выйшлі з самога гэтага народа і дзялілі з ім усе нягоды? Спыніцца варта на поглядах Я. Лёсіка і А. Прушынскага (А. Гаруна) — двух сяброў па сібірскай ссылцы.

Язэп Лёсік адразу ж адгукнуўся на вестку аб Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі. І не прыняў яе. Але чаму? Яго аргументацыя заслугоўвае таго, каб з ёю пазнаёміцца, бо ў ёй увасоблены погляды не аднаго толькі аўтара, а ідэйныя ўяўленні народнай, патрыятычна настроенай беларускай інтэлігенцыі. Дык вось, у газеце «Вольная Беларусь» (1917 г., № 30 ад 19 лістапада) у артыкуле «Скуткі бальшавіцкага паўстання» ён піша:

**«...Разумеецца, што гэта байкі, калі бальшавікоў называюць здраднікамі і нямецкімі шпікамі. Такімі байкамі і ганебнымі плёткамі хітрыя людзі звыклі палохаць дурных і сквапных на таемныя гаворкі грамадзян. Такія людзі гатовы распусціць чуткі, што бальшавікі, замест гарэлкі, п'юць кроў і закусваюць маленькімі дзяцьмі. Людзі, каторым ні пад сілу ідэйнае змаганне з сваімі супраціўнікамі, шмат на што адважваюцца. (...)**

**...Цяперашнія выдумшчыкі пра бальшавікоў, не разумеючы іх ідэёвых заданняў, ганебна тлумачаць погляд бальшавікоў на вайну і адносіны да нямецкага пралетарыяту. З бальшавікамі можна і трэба змагацца ў наш небяспечны час усімі заходамі, але бэсціць людзей і плясці на іх усялякую брыдоту — не гожа; гэта значыць — пляміць самых сябе. З бальшавікамі трэба змагацца дзеля таго, што яны рыхтуюцца завесці ў дзяржаве такі грамадзянскі лад, да каторага людзі яшчэ не дараслі. Уводзіць у нас, пры нашай гаспадарскай і грамадскай адсталасці, сацыялістычны лад, — гэта ўсё роўна, каб хто захацеў з малога хлопца раптам зрабіць дзецюка ды стаў бы цягнуць яго за вушы ўверх. Разумеецца, апрач калецтва, з гэтага нічога б не вышла. А, тым часам, бальшавікі робяць нешта падобнае з дзяржавай расійскаю, і мы бачым, што скуткам іх заўчаснай чыннасці пабольшваецца бязлад, калатніна і заняпад, хоць яны шчыра жадаюць дабра працоўнаму народу, але гэтак, як шкадавала адна жаласлівая бабка свайго хворага на тыфус унука. Унук плакаў ды ўсё прасіў даць яму бульбы, каторае пры тыфусу ні можна есці. Бабуля змілавалася ды дала, а ўнук з'еў ды памёр. (...)**

**Бальшавізм спакусіў цёмныя, несвядомыя масы моцнымі абяцанкамі скончыць вайну, надарыць зямлёю, накарміць галодных, усцешыць бяздольных, прыпыніць калатніну, устанавіць парадак. Тым часам, нічога гэтага ён зрабіць не здолае. (...) Народ утаміўся і перажыў усе стадыі сацыялістычных абяцанак. Гэтыя абяцанкі нічога, апрач утомы і зняверра, яму не далі. Бальшавізм — гэта астатняя хваля рэвалюцыйнага руху,—далей пасувацца некуды. Ад гэтага часу рух рэвалюцыйнага поступу пачне здаваць назад і — хто скажа, дзе гэтае адступленне назад супыніцца? Хто можа быць пэўным, што не з'явіцца ў гэты цяжкі час грамадскага заняпаду які-небудзь Напалеон і не пастараецца завесці парадак на свой густ і разуменне? (...)»**

Так Лёсік яшчэ ў лістападзе 1917 г. прадказаў з'яўленне Напалеона-Джугашвілі-Сталіна. Сам ён не верыў у магчымасць сацыялістычнай перабудовы грамадства ў такой адсталай краіне, як Расія або Беларусь. Але пасля заканчэння грамадзянскай вайны ён прызнаў Савецкую ўладу і пачаў прымаць самы непасрэдны і актыўны ўдзел у культурным будаўніцтве ў Савецкай Беларусі, стаў адным з першых правадзейных членаў Акадэміі навук БССР.

НА ПРАЦЯГУ ўсяго перыяду грамадзянскай вайны вакол нацыянальных праблем разгортвалася непрымірымая ідэалагічная канфрантацыя — месцамі, як мы бачылі, крыклівая, непераборлівая, а месцамі ўзважаная, заснаваная на фактах і аргументах. Усё гэта абумоўлена было ўзроўнем агульнай культуры ўдзельнікаў палемікі, іх кругаглядам. Вялася ў паэзіі і публіцыстыцы — *у найбольш аператыўных* жанрах літаратуры. Вялася таму, што ад вырашэння нацыянальных праблем, таксама як і ад сацыяльных, залежаў лёс народа, які на папялішчах павінен быў адраджацца да новага жыцця. Стары лад давёў да сусветнага катаклізму. А якім павінен быў стаць новы лад? На гэтае пытанне даваліся розныя адказы. Змагаліся розныя канцэпцыі і ўяўленні. Сёння можна толькі здзіўляцца шырыні погляду і дальнабачнасці некаторых аўтараў.

Можна нагадаць, што сказана ў праграме БСДП: «Чым раней адбудзецца сацыяльная рэвалюцыя, тым цяжэй яна адаб'ецца на гаспадарскім жыцці, тым цяжэй будзе яе перажыць усяму грамадзянству і ў першы чарод самім працаўніком.

Калі мы хочам, каб сацыялістычны парадак быў трывалым, каб ён здавольваў не толькі свядомых, але і мала свядомых працаўнікоў, дык мусім клапаціцца, каб пры гэтым парадку не зменшыўся вытвар фабрыкаў, не стала горш радзіць зямля; бо ў такім разе народ будзе незадаволены з новага, хаця б і справядлівага парадку, вернецца да старога парадку і пасля доўга і ўпарта будзе яго бараніць». Як не ўспомніць тут сучасныя падзеі ў Польшчы, Венгрыі, Румыніі і ў іншых краінах Усходняй Еўропы, дзяржаўны лад якіх на працягу больш чым чатырох дзесяцігоддзяў мы называлі сацыялістычным!

Ад палемікі па нацыянальных пытаннях не заставаўся ўбаку і Алесь Гарун. На працягу 1917—1920 гадоў у яго поглядах заўважаецца прыкметная пераацэнка каштоўнасцей. З самага пачатку ён рэзка выступаў супраць тых, хто не прызнаваў нацыянальных інтарэсаў беларускага народа і вырашаў складаныя палітычныя і грамадскія праблемы толькі шляхам выкарыстання сілы. Ён лічыў, што пагроза беларускаму народу заўсёды ў аднолькавай ступені ішла з Варшавы і Масквы, і спадзяваўся, што беларусы могуць і павінны заваяваць поўную дзяржаўную незалежнасць.

Але ўжо і ў той час, у 1918 годзе, ён з найвышэйшай пахвалой гаварыў пра рэвалюцыйныя заслугі расійскага пралетарыяту. Аднак у верасні 1919 г. на сустрэчы з Пілсудскім выступіў з антысавецкай прамовай. Пасля таго верасня — ніводнага антысавецкага радка, ніводнага слова. Ствараецца ўражанне, быццам Алесь Гарун чакаў кардынальных перамен — чакаў з надзеяй і верай, баючыся сказаць што-небудзь у падтрымку, але і не выяўляючы недаверу. А яшчэ не так даўно ён дазваляў сабе адкрытую ідэйную палеміку з бальшавікамі — не крыклівую, не абразлівую, але прынцыповую, абгрунтаваную. Уяўленне аб яго поглядах таго часу дае артыкул «Увагі да нацыянальнага руху», апублікаваны 17 сакавіка 1918 г. у газеце «Вольная Беларусь». Думаецца, што варта і сённяшняму чытачу пазнаёміцца з гэтым артыкулам, каб атрымаць уяўленне аб формах і сутнасці ідэйных палемік таго часу ды і *аб поглядах самога Алеся Гаруна* як аднаго з найбольш вядомых і відных прадстаўнікоў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху:

«У істоці ўсякі нацыянальны рух мае мяшчанскі (буржуазны) характар і заўсёды становіцца ў адпор сацыяльным надзеям і дамаганням работніцкага стану».

«Нацыянальнае пачуццё падтрымліваецца і шырыцца валадарнымі станамі, каторым трэба падзяліць работнікаў, каб потым лягчэй было разбіваць іх у борках за эканамічныя паляпшэнні».

**Такія, цалкам хвалшывыя погляды пашыраюцца шмат кім з правадыроў сучаснага (з бальшавіцкім нахілам) сацыялістычнага руху, якія добра запамятаваўшы сабе словы граматы камуністаў: «работнікі не маюць бацькаўшчыны. Нельга пазбавіць іх таго, чаго ў іх няма», забыліся саўсім аб правіле: «спосаб разумавання марксізму дыялектычны».**

**Заданнем нашым не ёсць спрэчка з *такімі сацыялістамі, але залічаем не лішнім* сказаць некалькі слоў аб прычыне, змушаючай іх адступаць ад здаровага спосабу разумавання і правідловых поглядаў.**

**Прычына гэтая — псыхолёгічнага парадку і мае пачатак у характары той *працы, якую прыходзіцца рабіць сацыялісту.***

**Сацыялістычны ўстрой — анцітэза сучаснага ўстрою. Праца сацыяліста скіравана да будавання гмаху новага жыцця сярод сучаснасці, каторую ён няўпынна намагаецца зруйнаваць, праз што заўсёды павінен быць на старожы, бо навокал яго непрыяцельскі кош (ваенны лагер. — У. К.). Тысячы небеспячэнстваў пагражаюць яму — воіну за будучыну — у кожным мамэнце, а наперадзе свеціць вялікая «ваенная дабыча». І няма дзіва, што часамі ў ваяўнічым запале, а часам паддаўшыся слабасці, ён можа згубіць меру відочных рэчаў і часу. Бо і сацыяліст мусіць прызнацца: «чалавек я, і ўсё чалавечае мной уладае». Тады яму здаецца, што мэта, да якой кіруецца ўсё яго духоўнае жыццё, ужо саўсім блізка і каб яе дастаць — досыць ступіць яшчэ адзін толькі крок ці выцягнуць руку. Тая грамадская сіла, на якую апіраючыся спадзяецца ён дасягнуць свае мэты, — пралетарыят, работнікі, — перацэніваецца (перабольшваецца. — У. К.) ім у такі мамэнт, здаецца мажнейшай, чым ёсць напраўду, бо яму, каторы заглядзеўся ў будучыну, чакаючы найбарджэйшага яе зьішчэння (здзяйснення. — У. К.), моцна х о ч а ц ц а ўзмацавання гэтай сілы, каб калі можна, з а р а з ж а пераскочыць з «панства прымусу ў панства свабоды».**

**М о ц н а е б а ж а н н е найхутчэйшага зьішчэння яго ідэалу, а часамі, у слабых людзей, і жаданне с а м о м у ўступіць у «зямлю абяцаную»— вось той псыхолёгічны чыннік (фактар. — У. К.), які часамі змушае сацыяліста адступаць і ад гістарычнай праўды і ад правідловага спосабу разумавання.**

**Чыннік гэты, здаралася, панаваў часова і над людзьмі вялікай разумовай сілы і здольнасцяў. Сацыялісты брэдаўцы (утапісты), як Оўэн, Сэн-Сімон, Фур'е, Кабэ, — людзі вялікай аналітычнай моцы, найлепей за ўсіх сваіх сучаснікаў бачыўшыя хібы акаляючага іх свету, рабіліся дзяцьмі, як толькі пачыналі думаць аб будучыні. Ім здавалася, што для шпаркай, феерычна простай перабудовы супольства, апрача трафна (удала, дакладна. — У. К.) накрэсованага плану, трэба саўсім нямнога: толькі агульнай згоды, толькі паспалітай добрай (як у іх) волі.**

**І з вядомых сацыялістаў т. зв. «навуковай школы» не ўсе былі чужымі гэтаму граху. Напрыклад, калі ў 1898 г. германская соц.-дэм. партыя атрымала першы раз на выбарах у рэйстаг каля 3-х мільёнаў галасоў за сваіх кандыдатаў, адзін з бацькоў гэтай школы, Энгельс, паддаўся самаашуканству і прарочыў, што ў хуткім часе, усяго праз некалькі гадоў, мусіць наступіць сацыялізм.(...)**

**Калі з такога пункту паглядзець на праявы расійскага грамадскага жыцця, пачынаючы ад марца 1917 году, то шмат якія з іх зробяцца і яснейшымі і больш зразумелымі, а паміж імі і тая неспагаднасць, з якой расійскія «цэнтральныя» і «левыя» сацыялісты адносіліся к праявам нацыянальнай свядомасці і нацыянальна-палітычнага руху сярод невялікарускіх народаў імперыі. «Дзеля таго, што ім так бажалася—ім так і здавалася». Ім, расійскім сацыялістам, такі доўгі час у кляшчатках найцяжэйшага самаўладства марыўшым аб свабодзе і так раптоўна, неспадзявана для сябе пазбаўленым усякіх перашкод, выскачыўшым з падполля на шырокае поле дзяржаўнага будаўніцтва, уроілася, што «другі дзень пасля сацыяльнай рэвалюцыі» мае быць «заўтра», а «першы» ўжо настаў «сягоння». Колькасць гэтых тэрмінаў не ўсімі, канечне, лічылася аднаковай, што залежала *толькі ад характараў і дасвядчэння* асобных людзей, але ад ніякіх праграмаў і тэорыяў.**

**Людзі больш спакойнага характару і лепшага тэарэтычнага і жыццёвага дасведчання расцягвалі «сягоння» і аддалялі «заўтра» на мяпэўна доўгі час; гарачэйшыя з натуры аблічалі «сягоння» ў 10—15 гадоў, а «заўтра» паказвалася ім ўжо ў малюнку праўдзівага Эдэму (біблейскага раю. — У. К.); а маласвядомыя і саўсім цёмныя навіцыушы (навічкі. — У. К.) сацыялізму, у якіх перарабілася большая часць салдацкай, работніцкай і сялянскай люднасці ў Расіі, думалі проста: — што «сягоння» гэта зараз жа, — як сказаць, а «заўтра» мае быць праз 24 гадзіны і да такога разумення стараліся стасаваць свае ўчынкі.**

**І праявы нацыянальнага руху (які здаецца агульна-народным, але бывае такім вельмі рэдка) здаваліся большай часці з іх (расійскіх сацыялістаў) і непатрэбнымі і шкадлівымі для інтарэсаў невaладарных станаў, работніцкага і сялянскага. Нашто дзяліцца, калі наступіў час агульнага карыстання агульным дабром? Дзеля чаго драбіць свае сілы, калі патрэбна з'яднанне ўсіх для абароны «новага супольства»? Нашто гэтыя «мовы», «культуры» — забыткі старога свету, калі заступіла на зямлю святая вестка ўсясветнага брацтва? Няйначай — гэта «работа мяшчанства». А калі нават гэта рух і самога працоўнага люду, то гэта адсталасць, якой не павінна быць месца ў сучаснасці. І адсюль: вайна словам, агнём і мячом проці нацыянальнага адраджэння. Вось прычына, якая змушае некаторых правадыроў сацыялізму ў Расіі і іх вучняў шырыць сярод паспольства хвалшывыя погляды на нацыянальнае пытанне і нацыянальны рух.**

**Другой няма. Праўдзівы, не заражаны псыхозам сацыяльнага б у н т у сацыяліст ніколі не ашукаецца ў значэнні слоў граматы камуністаў: «работнікі не маюць бацькаўшчыны. *Нельга пазбавіць* іх таго, чаго ў іх няма».**

ПАРА падводзіць некаторыя вынікі. У перыяд грамадзянскай вайны ішло бескампраміснае змаганне за будучыя формы дзяржаўнага будаўніцтва і сацыяльнага ладу. Працістаялі розныя — сёння мы іх назвалі б альтэрнатыўнымі — канцэпцыі. Перамагла найбольш экстрэмісцкая, хоць яе не прымалі ні беларускія бальшавікі (Жылуновіч, Чарвякоў, Дыла), ні тым больш сацыял-дэмакраты (А. Луцкевіч, Прушынскі, Лёсік). Адны і другія захоўвалі вернасць патрыятычнаму абавязку і сыноўняму доўгу спакутаванай бацькаўшчыне. Усе яны бачылі выратаванне ў сацыялізме, з якім звязвалі надзеі на светлы лёс народа. Але ўяўленне аб сацыялізме і шляхах да яго ў кожнай грамадскай групы было сваім, адметным, часта кардынальна супрацьлеглым.

Марксісцкая філасофія вучыць, што крытэрыем ісціны — адзіным і надзейным — з'яўляецца практыка. Канцэпцыі Мяснікяна, Кнорына, Ландэра, Рэйнгольда здзейсніліся ў самой рэчаіснасці. Гэтыя дзеячы рэвалюцыйным энтузіязмам сеялі вецер, а ў выніку, па законах дыялектыкі — *пажалі буру, што знішчыла* і іх саміх (тых, хто дачакаўся яе).

Лінія Мяснікяна — Кнорына праклала шлях не да сацыялізму, не да царства ўсеагульнага шчасця, гармоніі, ладу і дабрабыту, а да сталінскай калектывізацыі, да небывалага голаду, масавага тэрору, сімвалам якога сталі вядомыя ва ўсім свеце Курапаты.

Здавалася б, ясна: банкруцтва гэтай палітычнай лініі бачна ва ўсім — у дзяржаўным будаўніцтве, палітыцы, эканоміцы, культуры. Настала пара даць ёй адпаведную адназначную ацэнку. І падумаць, чаму да гэтага часу іх прозвішчы ўвекавечаны ў *назвах вуліц і плошчаў*, чаму самі яны ўсё яшчэ ў розных крыніцах характарызуюцца як героі нашай гісторыі.

**Міхась РУДКОЎСКІ**

## Смерць Афанасія Філіповіча

— Суняўся б ты хоць сёння, Апанас,
Утаймаваў бы нораў і гардыню!
Ці ж белы свет на уніі для нас
Сышоўся клінам?

Прашу, як друга, ты ад слоў сваіх,
Пакуль яшчэ не позна, адрачыся
І з уніятамі — час гэткі! — прымірыся, —
Не цкуй ты іх...

— Што чую ад цябе, айцец святы?
Ты, праваслаўны, гэта мне гаворыш?..
О, гора мне!
О, гора вам, браты!
Няверным гора!

Каб з унею праклятаю змірыцца,
З прадаўцамі, што ганьбяць запавет?
Не, ойча, ні за што! Лепш не радзіцца
На божы свет!
Што гаварыў, і гавару
І паўтараю.
На чым стаяў, на тым стаю,
З тым паміраю.
На продаж хціўцам не аддам
Я веры нашай!

...І стрэлы грымнулі ў вясне,
І рэха змоўкла, там, на лядах, —
А ён, прыпёршыся к сасне,
Стаяў усё, стаяў, бы ў сне,
Стаяў — не падаў.

«О, Езус! — прашаптаў гайдук. —
Не чалавек — то д'ябл, холера...» —
І ўвесь збялеў, нібы папера.
А Той стаяў, як на бяду
(Лахмаціў вецер бараду),
Не прывід, не! —
Стаяла Вера!

## Голас у Курапатах

Запрошаны на баль,
я ўбачыў пот і слёзы,
Пакліканы любіць,
сустрэў я гвалт і здзек.
Я без віна хмялеў,
а за віном — цвярозы,
Я на Алімп ляцеў —
прыплёўся да калек.
І плюнуў на яго я,
на зямнога бога,
І на раціўцаў змрочных
ягоных —
заадно...
А што далей?..
Эх, брат!..
Далей — адно нічога:
Дарога як міргнуць
і ямы гэтай дно...

●

Стаміўся мой клён у слаце непагоды,
Стаміўся на клёне птах дзіўнай пароды,
Стамілася «неперспектыўная» хата,
І рэчка, і поле (ад дурхімікатаў).
У стоме і лес мой,
і *неба* у стоме.
Стамлёны і я.
А чаго — невядома.
Мне кажуць: ты, браце, відаць, у абозе;
Мне кажуць:
жывеш як гарох пры дарозе;
І мовяць яшчэ:
забываеш радзіну...
Ды д'ябал са мной!
Але ж я — не адзіны...

## Малітва на бяросце, знойдзеная пры раскопках кургана

божа праведны
божа высокі
божа літасцівы
збаві род наш
ад немачы
страшней за батыя
страшней за чуму
збаві нас грэшных
збаві нас бедных
ад самавыраджэння
самазабыцця
амінь

●

Падае ранняя восень
Лісцем, як целам, у снег...
Што зажурылася, Зося?
Дзе бесклапотны твой смех?

Чуеш? — рыкае ласіха
Недзе у пушчы, бы ў сне...
*Хай абміне цябе ліха,*
Злыдзень няхай абміне!

Будзе ўсё яшчэ, будзе,
Як і бывала спрадвек:
Стрэнуцца людзі як людзі,
Стрэнецца і чалавек.

## Любоў?..

Не, яны не ляцелі на крылах,
А ішлі і ішлі, як маглі.
Гадавалі дзяцей і вучылі.
Не хвалілі другіх, не клялі...
Ну а там,
Там,
На самым на краі,
У непазбежнасці той,
У начной,
Ён спытаў:
— Ты са мной, дарагая?
І яна адказала:
— З табой...

## «ЖЫВЕ «БЕЛАРУСЬ»!

Перыядычныя выданні — як і людзі. Час заўсёды кладзе на іх лёс адбітак. Грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс «Беларусь», якому споўнілася шэсцьдзесят гадоў, у гэтым сэнсе не выключэнне. На яго творчым небасхіле палалі рэвалюцыйныя сполахі, ён адчуваў адліжную цяплынь і перажыў застойныя гады. Сёння ён — актыўны прапагандыст ідэй перабудовы.

Спачатку часопіс выходзіў пад назвай «Чырвоная Беларусь» перыядычнасцю раз у два тыдні — са студзеня 1930 па сакавік 1933 года. Рэдактарамі былі М. Чарот, потым — М. Хведаровіч. Асвятляючы сацыялістычнае будаўніцтва ў вёсцы і горадзе, часопіс, наколькі дазвалялі магчымасці, імкнуўся слухаць пульс часу.

Адноўлены ён быў (пад сваёй цяперашняй назвай) у 1944 годзе. Як і раней, на пачатку 30-х, намагаўся быць выразнікам грамадскай думкі. Зразумела, не абыходзілася і без матэрыялаў «урапатрыятычных», без публікацый, у якіх жаданае выдавалася за сапраўднае. Разам з тым нельга не сказаць, што часопіс усё ж, так ці інакш, пісаў летапіс часу.

Новае дыханне «Беларусі» пачалося з перабудовай.

Пра ўсё гэта гаварылася на вечары, прысвечаным часопісу-юбіляру, які адбыўся ў Доме літаратара. Адкрыў і вёў вечар галоўны рэдактар часопіса «Беларусь» А. Шабалін. Прыязныя словы ў адрас юбіляра сказалі першы сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак, першы намеснік міністра культуры рэспублікі У. Гілеп, дырэктар выдавецтва «Беларусь» В. Дубоўскі, дырэктар выдавецтва «Полымя» М. Івановіч, галоўны рэдактар часопіса «Крыніца» У. Някляеў, а таксама А. Разанаў, Г. Булыка, А. Марачкін і іншыя.

Тэкст і фота
Ул. КРУКА.

## Мартыралог Беларусі: імёны і факты

**Іван ЛАСКОЎ**

# ШЛЯХ ПАКУТНІКА

**По старонках адной малавядомай кнігі**

Гэтая кніга трапіла мне выпадкова, праз 27 год пасля выдання. Язэп Германовіч, «Кітай — Сібір — Масква. Успаміны», Мюнхен, 1962 г. Разгарнуў яе з пэўным недаверам. Трывала сядзіць у нас недавер, выгадаваны яшчэ ў тыя часы, калі любы радок на нашай мове, выдадзены за мяжой, лічыўся для нас варожым. Не буду ўводзіць у зман чытача, заяўляючы, што кніга напісана сябрам ці прыхільнікам Савецкай улады. Сваё стаўленне да нашага ладу, а дакладней, да змрочнага сталінскага часу Я. Германовіч выказвае недвухсэнсоўна. Сёй-той і цяпер можа вызначыць ягоную кнігу як антысавецкую. І сам я, калі б зазірнуў у яе ў той час, калі яна выйшла, можа, сказаў бы прыблізна тое ж. Але час ідзе...

Думаецца, што такім аўтарам, як Германовіч, трэба верыць. Не можа маніць глыбока рэлігійны і такі шчыры чалавек, як Германовіч, што не тоіць у сваіх успамінах нават і ўласных «грахоў» накшталт «украдзенага» з поля гурка.

Нарадзіўся Язэп Германовіч (сваё імя па бацьку ён не паведамляе) 4 сакавіка 1890 года ў мястэчку Гальшаны Віленскай губерні. (Цяпер вёска ў Ашмянскім раёне Гродзенскай вобласці). Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. У 1924 годзе «ўступіў да айцоў Марыянаў» Друйскага кляштару, што ў Браслаўскім раёне. На пачатку 30-ых гадоў яго жыццёвы шлях робіць рэзкі паварот... Аля для большай зразумеласці крыху адхілімся ад жыццяпісу айца Язэпа.

Як вядома, кітайцы спрадвеку мелі сваю рэлігію — канфуцыянства. Але з пункту гледжання хрысціянскіх цэркваў, Кітай лічыўся паганскім. Таму з другой паловы XIX стагоддзя Кітай робіцца полем дзейнасці каталіцкіх місіянераў. Да трыццатых гадоў XX стагоддзя лік хрышчоных у каталіцтва кітайцаў дасягае пяці мільёнаў. Сваю дзейнасць у Кітаі разгортвала і Руская праваслаўная царква. «Справа, — піша Я. Германовіч (цытую, захоўваючы ўсе моўныя і арфаграфічныя асаблівасці), — пачалася прыпадкова і ў дзіўны спосаб. У XVII стагодзьдзі кітайцы вялі вайну з царскай Расіяй і двойчы здабывалі над ракою Амурам цьвярдыню Албазін. Першая аблога кончылася нічым. Другі раз, пасьля доўгай аблогі, абаронцаў цьвярдыні голадам прымусілі здацца. Кітайцы вельмі дзівіліся з мужнасьці і стойкасьці *забайкальскіх казакоў* і, узяўшы іх у палон, далі ім узнагароду: пасадзілі ля Пэкіну на ўчастках, пажанілі зь кітайкамі і пакінулі ім вольнасьць рэлігіі. Пасьля дагаварыліся з царскім урадам і расейскі Сынод назначаў праваслаўных духоўнікаў у пэкінскую «албазінскую» місію. У наступных пакаленнях албазінцы акітаіліся зусім, але насілі імёны Ванькаў і Міцькаў і захавалі праваслаўную веру. Нават расейская мова атрымала ў іх сваю вагу, а ў цэрквах — славянская. Калі ўзьнікла патрэба тлумачыць літургію і наагул царкоўнае набажэнства на кітайскую мову, пецярбургскі Сынод не працівіўся гэтаму. (...) Такім чынам, праваслаўная цэрква залажыла свой трывалы фундамент будучай місіі ў Кітаі».

Яна ўзмацніла свой уплыў, калі царызм ператварыў паўночна-ўсходні Кітай у сваю «сферу ўплыву», фактычна далучыўшы яго да Расіі. Хутка расла колькасць рускага насельніцтва Маньчжурыі, была пракладзена Усходне-Кітайская чыгунка, на месцы кітайскай вёскі пабудаваны рускі горад Харбін. Яшчэ больш стала ў Маньчжурыі рускіх людзей пасля грамадзянскай вайны і выгнання белагвардзейцаў з Усходняй Сібіры. Але праваслаўнай царкве ў Кітаі гэта чамусьці на карысць не пайшло. «Хоць эміграцыя наагул не была бедная (...) хоць расейская эміграцыя здолела пабудаваць у Харбіне дзесяткі прыгожых цэркваў, аднак не змагла стварыць і весьці інстытутаў місійных, ані нават сваіх выхаваўчых у такіх памерах, як мелі пратэстанты і мы, каталікі», — зазначае Я. Германовіч. Болей за тое: частка праваслаўнай эміграцыі ў Кітаі стала далучацца да каталіцтва. Ватыкан, што пільна сачыў за гэтым, вырашыў падмацаваць справу накіраваннем у Харбін прадстаўнікоў усходне-каталіцкага духавенства. Першым кіраўніком усходняй каталіцкай місіі ў Кітаі быў прызначаны архімандрыт Фабіян Абрантовіч, з нацыянальнасці беларус. Доктар філасофіі (атрымаў адукацыю ў Пецярбурзе), «слаўны прамоўца і пісьменнік», у 1918—1920 гадах ён быў рэктарам *каталіцкай духоўнай семінарыі* ў Менску (якую сам заснаваў), пасля працаваў у Навагрудку. У 1928 г. «параплавам з Марсыліі, праз Суэц, Сінгапур, Шангай, Дайрэн» Ф. Абрантовіч прыязджае ў Харбін.

У далейшым сюды прыехалі яшчэ некалькі святароў з Беларусі, у тым ліку 23 мая 1932 года — Язэп Германовіч. Ён узначаліў каталіцкую школу-інтэрнат для хлопчыкаў-сірот—дзяцей эмігрантаў. Працавала школа на рускай мове.

У 1935 годзе, зморaны цяжкай і нервовай працай, Германовіч захварэў і быў вымуша-

(Працяг на стар. 14—15).

# ШЛЯХ ПАКУТНІКА

(Пачатак на стар. 13).

ны выехаць з Кітаю. «Пасьля нядоўгага адпачынку ў Рыме і ў Друі заняў месца рэктара студыяў у Вільні... у купленым доме для клерыкаў-беларусаў».

«Ад пачатку 1938 (года), — піша далей Германовіч, — пачалася вялікая нагонка на беларусаў у Віленскім ваяводстве з боку польскага акупацыйнага ўрада Рыдза-Сьміглага. У рэзультаце гэтага былі выселены з Друйскага кляштару сьвятары і клерыкі беларусы». Сам Германовіч 10 ліпеня 1938 г. быў высланы з Вільні. Відавочна, ён не меў ніякага іншага выйсця, бо 2 мая 1939 г. зноў апынуўся ў Харбіне ў той самай школе-інтэрнаце (якую называе таксама ліцэем). Напачатку працаваў выхаваўцам у інтэрнаце, потым займаў пасаду віцэ-дырэктара, выкладаў лаціну.

ПАЧАЛАСЯ І СКОНЧЫЛАСЯ другая сусветная вайна. Разграміўшы Квантунскую армію, савецкія войскі занялі Маньчжурыю. Але ў жыцці ліцэя мала што змянілася. Ён працягваў карміць і выхоўваць больш за 500 вучняў, пераважна дзяцей эмігрантаў. Потым савецкую адміністрацыю змяніла кітайская.

22 снежня 1948 года, якраз перад калядамі, кітайская міліцыя, зрабіўшы нечаканы налёт на ліцэй, схапіла амаль усіх выкладчыкаў і, не даўшы апрануцца, наклаўшы наручныя кайданы, пагрузіла святароў у цягнік і павезла. Няшчасныя думалі — на расстрэл, аказалася — на савецкую граніцу, дзе яны былі перададзены з рук у рукі за нейкую плату (!) супрацоўнікам НКУС.

З гэтага часу для аўтара ўспамінаў пачынаецца доўгі крыжовы шлях: здзекі следчых, абвінавачванне ў шпіянажы (!), завочны суд у Маскве з прысудам — 25 год па чатырох артыкулах («арганізацыя ў ліцэі ваенна-тэрарыстычнага гуртка, супрацоўніцтва з загранічнай буржуазіяй, шпіёнства для Ватыкану і агітацыя супраць Савецкага Саюзу»). У лагеры Я. Германовіч цяжка захварэў (крывавы гемарой), яму зрабілі дзве аперацыі, і пачаўся кругіз па лагерах Ангарлагу... Ужо і Сталін памёр, а для такіх, як Германовіч, нічога не мянялася. Нарэшце, 8 верасня 1954 года ў лагеры Віхараўка адбыўся суд над знядужаным чалавекам, пасля нядоўгай нарады выносіцца пастанова: «Зволіць ад далейшай кары лягеру!» «Так я атрымаў урачыстае народнае разграшэнне», — з усмешкай зазначае аўтар.

Апраўданых судом вязуць у Маскву. Здавалася б, воля блізкая. Але ў Маскве на пероне іх зноў бяруць у круг узброеныя людзі, перагружаюць у іншы цягнік і вязуць у Поцьму (Мардоўская АССР). І змяшчаюць зноў... у лагер, дзе трымаюць яшчэ каля паўгода. І толькі 27 красавіка 1955 года (Германовіч прасіўся, каб яго пакінулі на Беларусі) аўтар успамінаў перасякае савецка-польскую мяжу, прычым да самага Брэста едзе фактычна пад аховай.

Такім чынам, Германовіч прабыў у СССР шэсць год чатыры месяцы, і аніводнага дня як вольны чалавек. Сустрэлі яго беззаконнем і з беззаконнем, можна сказаць, праводзілі.

Паўтараю: за шэсць год і чатыры месяцы Германовіч не быў у Савецкім Саюзе вольным чалавекам аніводнага дня. У турмах і лагерах яго акружалі такія ж няшчасныя ахвяры сталіншчыны, як і ён сам. З аповядаў гэтых людзей святар даведваўся аб сапраўдным тэроры, разгорнутым у СССР, аб жудасным калгасным прымусе.

Яшчэ болей трагічным быў лёс калег Германовіча па харбінскім ліцэі. Першы кіраўнік ліцэя, Фабіян Абрантовіч, у красавіку 1939 года паехаў у Рым даць справаздачу папе Пію XII-му. Пасля Рыма Абрантовіч выправіўся ў Польшчу, каб наведаць прыяцеляў у Варшаве, Львове, Вільні, а таксама родных у Наваградку. У Наваградку яго і заспела другая сусветная вайна. Павярнуўшы назад, Абрантовіч здолеў дабрацца толькі да Львова, дзе трапіў у рукі НКУС. Далейшае не высветлена: па адных звестках, ён хутка пасля следства быў расстраляны, па другіх — памёр у цягніку, калі яго везлі з Масквы ў Сібір. Прынамсі, у той час, калі арыштавалі Германовіча, яго жывога, мусіць, ужо не было, бо на допытах айца Язэпа імя Абрантовіча следчыя не згадвалі ніколі.

Наступнік Абрантовіча, архімандрыт Андрэй Цікота, быў арыштаваны адначасова з Германовічам. А. Цікота быў па-свойму выдатным дзеячам каталіцкай царквы на Беларусі. У Віленскай духоўнай семінарыі вучыўся адначасова з Германовічам. Потым стаў законнікам (манахам) і заснаваў кляштар у Друі, той самы, у які ўвайшоў і Германовіч. У 1933—1939 гг. А. Цікота абіраўся ў Рыме на генерала закону (ордэна) Марыянаў.

«Особым совещанием» А. Цікота, як і калегі, быў засуджаны на 25 год лагераў. Тут яго, дагэтуль моцнае, здароўе пачало хутка гаснуць. Улады вырашылі выкарыстаць хворага чалавека «ў сваёй правакацыйнай палітыцы»: прапанавалі яму становішча беларускага першага біскупа ў Мінску з той умовай, што ён будзе працаваць «пад урадавай дырэктывай». Тут здарылася анекдатычная рэч. Улады «не разумелі каталіцкага законнага тытулу «Айцец Генэрал Закону Марыянаў»... Дык на размову з ім паслалі палкоўніка з прапановай ехаць у Менск. Але Цікота сказаў:

— Пакіньце мяне, каб я мог спакойна памерці».

11 лютага 1952 года архімандрыт Андрэй Цікота памёр у лагернай бальніцы № 38 на чыгуначнай лініі Тайшэт — Брацк — Заярск.

Выкладчык ліцэя Тамаш Падзява яшчэ пад час следства крануўся розумам.

Сталіншчыне было мала адрэзаць духоўных пастыраў ад вольнага свету, карміць нішчымнай кашай і гнілой капустай, абцяжарыць невыноснай працай. Святары ў турмах і лагерах уціскаліся яшчэ і як святары. За кратамі забаранялася весці набажэнства, хаця трапляла шмат вернікаў, дый няверуючыя ў турмах нярэдка рабіліся імі. Нельга без замілавання чытаць тыя старонкі, дзе Германовіч расказвае, як ён усё ж вёў службу.

Вось дзівоснае апісанне адной з такіх службаў: «Назначылі набажэнства якраз на сьвята Непарочнага Зачацьця Дзевы Марыі. (...) Калі ўсё ў нас было гатова, паўстала клапатлівае пытаньне месца. Тады натоўп народу, які нам перашкаджаў, неспадзявана стаў нам памоцны: мы скупіліся ў круг пры нашых ложках ад сьцяны, бо нары ня былі да сьцяны прытуленыя, і так наладзілі свой кружок — запраўдны «Сабор» — усходнюю Службу. У тым гурце народу бліжэйшыя вязьні разумелі, што мы супольна молімся, але аб самай тайніцы нашай Службы яны нічога ня цямілі і нам не перашкаджалі. А шум цэлага бараку дасканальна тушаваў перад народам наша набажэнства».

І яшчэ не ўсё. Святароў у турмах «ламалі», прымушаючы змяніць рэлігію або ўвогуле выракчыся яе. «Украінцы (святары. — **І. Л.**), — згадвае мемуарыст, — трапляліся або «цэлыя», значыць, ня ўпісаныя ў «сталінскае праваслаўе», або ўпісаныя — «зламаныя». Хто не запісаўся, той адразу даставаў 10 год за які-колечы схвальшаваны «шпіянаж». А хто запісаўся, той лічыўся лаяльным для бальшавікоў і заставаўся на месцы. Аднак пасьля і гэтыя былі *сасланыя ў Сібір, але* даставалі па «25», бо такая была «норма» для палітычных ад 1947 году».

Сам Германовіч яшчэ пад час следства таксама прайшоў спакушэнне выракчыся веры. Следчы ўзяў сабе за прывычку даводзіць святару, што бога няма і ўся рэлігія — адзін падман. Гэта гаварылася ў спалучэнні з намёкамі, што калі святар выракнецца бога, то яму зменшыцца пакаранне. «Аднойчы, калі я быў моцна знэрваваны доўгім і цяжкім допытам, Іваноў прыклікаў на сьледзтва «сем горшых ад сябе»: прышоў пракурор, падпалкоўнік і нейкія незнаёмыя ахвіцэры і ўсе яны навыперадкі пачалі засыпаць мяне закідамі супраць Бога. Я сядзеў, як аглушаны. Мне ня толькі да зьнемажэньня балела галава, але ў душы панавала поўная адраньцьвеласьць; парываўся што-колечы сказаць, і хоць мне было сорамна і балюча, што ня ўмею бараніць свае веры, але словы вязьлі ў горле і я ганебна маўчаў. (...) Аж толькі ў канцы самі сабою вырваліся ў мяне ненадуманыя словы:

— Каб ад Бога адрокся ўвесь сьвет і ўсё духавенства і нават сам рымскі Папа, дык гэта для мяне ня мела б ніякага значэньня, бо я адказваю толькі перад Богам...»

Такую веру нельга не паважаць.

Нарэшце, пад канец свайго нявольніцкага «падарожжа» па Савецкім Саюзе, другі раз праязджаючы Маскву — гэтым разам ужо не ў «чорным воране», а ў звычайным пасажырскім аўтобусе, Германовіч пераконваецца, што і на волі верніку не нашмат вальней, чым у лагеры: «Гэта ўжо ня ёсць той старадаўні царскі, баярскі й царкоўны горад, але тыповы вялікі, абноўлены й мала чым выдатны гарадзішча. (...) А дзе ж тыя, ведамыя ўсяму сьвету, «сорак-саракоў» цэркваў, якія будаваліся на працягу 800 гадоў? (...) Цэрквы пайшлі на склады, на памяшканні, або панішчаныя, ці запушчаныя — стаяць без вакон, абдзёртыя... І навошта іх так яшчэ трымаць?

(...) Урад, як мы... бачылі, аднаўляе крамлёўскую царкоўку, якая ўся згубілася ў рыштаваньнях — так густа імі абстаўленая, што ня можа прабіцца да неба ні адной сваёй кручанай вежай. Гэта — сымбаль: так абгароджана ўся праваслаўная Цэрква ў Савецкім Саюзе пад апекай бязбожнага ўраду...»

Галоўны бязбожнік для Германовіча — Сталін. Да Сталіна аўтар вяртаецца зноў і зноў, падкрэсліваючы бесчалавечнасць «Вялікага Шкодніка». Урэшце, яму нават здраджвае яго заўсёднае хрысціянскае чалавекалюбства, што прымушае бачыць чалавека нават у забойцу. Пра смерць Сталіна ён гаворыць са з'едлівым сарказмам: «Ах, як Сталін мудра зрабіў, што хоць раз памёр!» Смерць Сталіна ён згадвае раз-пораз як нейкі эпахальны рубеж, хаця вызваленне вязняў пасля яе пачалося далёка не адразу.

Мы павінны зразумець, што яна, гэтая кніга — не антысавецкая, а антысталінісцкая, што яе аўтар, вялікі свабодалюбца, *яшчэ 27 гадоў назад выступаў* супраць таго, супраць чаго выступаем мы сёння — супраць любога прыгнятання чалавека чалавекам, ад каго б той прыгнёт ні зыходзіў.

Яшчэ больш, чым прыгнёт, беззаконне, здзек, абурае Германовіча фальш, крывадушнасць сталіншчыны, што сваю пачварную тыранію пнулася выставіць як найвялікшае шчасце народаў. «Мы... — піша мемуарыст, — параўноўвалі маскоўскую (на Краснай Прэсні. — **І. Л.**) турму да сібірскіх і магу засветчыць, што яна гэтым ні ў чым ня ўступае. Іншая справа з турмой на Лубянцы! Бо там, як мне расказваў знаёмы сьвятар, ёсьць часьці «паказныя», дзе «паказныя лёкаі» падаюць «паказную» ежу 4-ы разы ў дзень у рукавічках. Паказныя турмы, як і паказныя калгасы й фабрыкі, служаць для загранічнікаў, якія пасьля агляду, як некрытычныя турыстыя, раўнуюць да амэрыканскіх».

МЫ ПРЫВЫКЛІ залічваць духавенства да пануючага класа і адпаведна ставіцца да яго. Але мы забываемся пры гэтым на дэмакратызм царквы, для якой не існуе ані сацыяльных, ані нацыянальных, ані расавых перагародак. Асабліва гэта датычыць царквы каталіцкай. Для атэіста, вядома, усе цэрквы «адным мірам мазаны», але, хоць і хрышчоны ў праваслаўе, я павінен прызнаць, што каталіцкая царква бліжэйшая да простага народа. Каталіцкае духавенства, не абцяжаранае сям'ёй, не мае патрэбы ў матэрыяльных сродках больш за тыя, якіх дастаткова для падтрымання жыцця.

«З сваёй біяграфіяй, — піша далей Германовіч, — я ўваходзіў на сьледзтва не абцяжаны мінуўшчынай... (...) Маё паходжанне было наскрозь пралетарскае: бацька быў, як эмігрант, рабочым у Пецярбурзе ў экіпажнай майстэрні, а маці з простае сялянскае сям'і. Мой бацька выходзіў зь безьзямельных сялян і памёр, калі мне было ўсяго два гады. Як падрастаў, я доўгія гады быў пастушком у сваіх дзядзькоў, а так-жа ў чужых людзей. Польскі фашыстоўскі ўрад мяне дужа прасьледваў: пяць гадоў мне не давалі пашпарту (мабыць, замежнага. — **І. Л.**); а ў 1938 годзе быў пад наглядам паліцыі ў Вільні і пасьля адтуль мяне выселілі. — Адным словам, такім бліскучым пралетарскім паходжаньнем не маглі пахваліцца самыя бальшавіцкія ўрадаўцы ў Чыце. Але мне яно так памагло, як беднаму чалавеку леташні сьнег».

Важна падкрэсліць, што Германовіч нідзе не крытыкуе савецкі лад за тое, што знішчыў пануючыя класы. «Бязбожнасць» гэтага ладу для святара не ў гэтым, а ў тым, што не шкадуе беднага чалавека, давёў яго да яшчэ большай беднасці і жабрацтва.

У душы Германовіча жыве стоены боль і за ўсё чалавецтва. Знаёмства з японцамі-палоннымі прымушае яго зноў і зноў вяртацца ў думках да Хірасімы. Хірасіма, можна сказаць, не дае святару спакою. Апісваючы сваю апошнюю вясну ў СССР, ён зазначае: «Кожную вясну... зямля родзіць траву й дрэвы «паводле гатунку свайго» (цытата з Біблії. — **І. Л.**). «І ўбачыў Бог, што ўсё было добрае». А благія, сьл пыя людзі гэтага не хочуць бачыць і плянуюць зьнішчыць наш добры, прыгожы сьвет... І ўжо трымаюць у руках гатовыя гарачыя бомбы. Усё жыцьцё можа раптоўна скончыцца на зямлі і астанецца Вялікае Сусьветнае Папялішча!.. Каму яно патрэбнае?»

Успаміны Германовіча разбураюць і яшчэ адзін стэрэатып. Доўгі час у нас панавала меркаванне, што беларусы — толькі праваслаўныя, а калі каталік — то ўжо паляк. Цяпер мы пачалі разбірацца з гэтым. Аказалася, што не толькі радавыя католікі, але і каталіцкія святары могуць быць беларусамі. Успаміны Германовіча ідуць у гэтым далей: з іх яскрава бачна, што каталіцкі святар можа быць і беларускім патрыётам. Пра гэта сведчыць асоба самога аўтара. Да Беларусі ў той ці іншай фор[illegible] ён звяртаецца ледзь не ў ко[illegible]ным са сваіх *шматлікіх* раздзельчыкаў. Нацыянальная цярпімасць Германовіча вялікая. Хоць ён амаль заўсёды называе нацыянальнасць чалавека, пра якога расказвае, але для яго яна ніколі не звязваецца з адмоўнымі рысамі характару. Народам, лічыць аўтар, уласціва толькі добрае, а калі хтосьці робіць благое, дык гэта — не тыповы прадстаўнік свайго племені, а ягоны вылюдак.

Што тычыць беларусаў, то тут у Германовіча стаўленне асаблівае. У сваіх аднапляменніках ён не знаходзіць увогуле ніякіх заганаў. І не мае значэння, хто перад ім: калгаснік з усходняй Беларусі або бацька забітага партызана з Арміі Краёвай. Абодва яны выклікаюць у святара толькі самыя цёплыя пачуцці, таго і другога ён можа назваць «галубіным сэрцам».

Расказаўшы, як украінцы-вязні спяваюць свае калядныя песні, Германовіч зазначае: «Якая вялікая крыўда й страта для беларускага народу, што пад варожым націскам ён забыўся й згубіў сваю рэлігійную песьню! Якое ганебнае няшчасьце, што нашае каталіцкае ды праваслаўнае духавенства так доўга было адлушчана ад народу й вучыла сваіх братоў аб сьвятых праўдах веры ў чужых і варожых мовах.

# «А праўда ўсё ж перамагла...»

**Факт біяграфіі І. ЖЫНОВІЧА**

ПРАГЛЯДАЮЧЫ публікацыі розных гадоў пра народнага артыста СССР прафесара Іосіфа Іосіфавіча Жыновіча (Жыдовіча), часам заўважаеш несупадзенне дат, звязаных з адным і тым жа фактам ягонай біяграфіі. Скажам, у З. Насценкі — «Іосіф Жыновіч. Старонкі жыцця» (Мінск, «Беларусь», 1969 г.) на старонцы 23 сказана: «У 1927 годзе ён паступае вучыцца ва універсітэт, праз год—у музычны тэхнікум, а пазней у Беларускую дзяржаўную кансерваторыю». У кнізе А. Ракавай «Дзяржаўны народны аркестр БССР імя І. І. Жыновіча» (Мінск, «Беларусь», 1978 г.) напісана наступнае: «Калі ў 1924 годзе ў Мінску быў адкрыты музычны тэхнікум, сярод першых яго студэнтаў быў Іосіф Жыновіч. Потым ён вучыўся ў кансерваторыі, закончыў універсітэт, атрымаў дыплом юрыста». А ў артыкуле Д. Жураўлёва «Іосіф Жыновіч» у зборніку «Кампазітары Савецкай Беларусі» (Мінск, «Беларусь», 1966 г.) пра гэта ж можна прачытаць: «У 1926 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт на факультэт права і гаспадаркі. Адначасова займаўся ў музычнай школе, потым у музычным тэхнікуме». Ці, скажам, у «ЛіМе» ад 11 мая 1957 года музыказнавец І. Нісневіч пісаў: «У 1937 г. у сувязі з арганізацыяй Беларускай дзяржаўнай філармоніі ансамбль народных інструментаў быў рэарганізаваны ў Беларускі народны аркестр. Іосіф Жыновіч прызначаецца канцэртмайстрам аркестра і салістам-цымбалістам». Аднак у зборніку «Кампазітары Савецкай Беларусі» (1966 г.) ва ўжо згаданым артыкуле Д. Жураўлёва гаворыцца: «У 1938 годзе Жыновіч вяртаецца ў Мінск, робіцца канцэртмайстрам аркестра беларускіх народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі».

Аналагічныя прыклады можна было б прыводзіць яшчэ, але сёння пагаворым пра іншае. Што ж тычыцца пералічаных несупадзенняў, дык наўрад ці можна абвінавачваць у іх аўтараў публікацый.

Вось што расказаў мне старэйшы кампазітар, народны артыст БССР прафесар Анатоль Васільевіч Багатыроў:

— **Іосіф Жыновіч разам са мной вучыўся ў кансерваторыі па класе кампазіцыі ў Васіля Андрэевіча Залатарова. Але калі вы звернеце ўвагу на спіс першых выпускнікоў класа Залатарова, гэта 1937 год, то адзначыце, што Жыновіча ў гэтым спісе няма: А. Багатыроў, П. Падкавыраў, А. Папоў, М. Крошнер, В. Яфімаў. А справа ў тым, што ў 1935 годзе, недзе вясной, Жыновіча выключылі з кансерваторыі як сына кулака і праз некалькі дзён арыштавалі. Кулакамі тады лічылі больш-менш забяспечаных сялян, г. зн. тых, хто ад цямна да цямна працаваў. Гультаёў і зайздроснікаў таксама было багата. Яны-то і пісалі ананімкі. А тады не разбіраліся: напісана — хапалі і саджалі. І нікому нічога не дакажаш.**

Сапраўды, быў час: нікому нічога не дакажаш. Аднак людзі знаходзілі мужнасць і ўсё-такі спрабавалі даказаць.

Са скаргі Пракурору БССР ад 8 кастрычніка 1958 года Антона Іосіфавіча Жыдовіча (брата І. І. Жыновіча): «Мой бацька, Жыдовіч Іосіф Феліцыянавіч, 1872 года нараджэння, селянін вёскі Арэшкавічы, Талькаўскага сельсавета, Пухавіцкага раёна, Мінскай вобласці, быў асуджаны 9 чэрвеня 1933 года тройкай АДПУ БССР па арт. арт. 63-1, 72, 75 і 76 КК БССР на 3 гады высылкі. Хутка пасля прысуду, знаходзячыся ў месцы ссылкі, бацька памёр... Бацька быў малапісьменным (2 гады вясковай школы) селянінам, серадняком... Усё сваё жыццё ён працаваў на зямлі і быў зусім далёкі ад якіх бы там ні было палітычных думак і тым больш дзеянняў...

Пачынаючы з 1926 года, несумленныя людзі спрабавалі з нашай сям'ёй зводзіць асабістыя рахункі і штогод ва ўстановы, дзе мы, дзеці, вучыліся і працавалі, паступалі розныя паклёпніцкія заявы. Кожны раз гэтыя паклёпніцкія абвінавачванні пасля праверкі адкідаліся. І вось, у 1930 годзе, у час чысткі савапарату, нам усім траім былі таксама прад'яўлены вельмі цяжкія абвінавачванні. Я, напрыклад, абвінавачваўся ў тым, што ўтоіў тое, што з'яўляюся сынам буйнога памешчыка, а мой брат Іосіф у 1920 годзе ў якасці белапольскага афіцэра актыўна выступаў супраць Савецкай улады і г. д....

Я асабіста па гэтых абвінавачваннях тады быў вычышчаны па 2 катэгорыі, брат выключаны з інстытута, а сястра Юлія са школы. Я добра помню, з якой цяжкасцю мне ўдалося абвергнуць усе гэтыя паклёпніцкія абвінавачванні, дарэчы, прысланыя за афіцыйным подпісам Пухавіцкага райкома партыі... У выніку падрабязнага разбору спраў я быў адноўлены на рабоце, брат і сястра адноўлены ў навучальных установах. Даказваць тое, што брат у 1920 годзе не выступаў супраць Савецкай улады ў якасці белапольскага афіцэра было няцяжка, бо брату ў гэты час было ўсяго 12 гадоў ад нараджэння».

А. Багатыроў працягвае:

— **Разам з Жыновічам выключылі з кансерваторыі тады цэлую групу студэнтаў, дарэчы, і маю будучую жонку Наталлю Навіцкую. Навіцкая праз паўгода была адноўлена ў кансерваторыі. Жыновіч адбываў ссылку недзе ў Мардовіі. Яго асудзілі на 10 гадоў, але адсядзеў ён 3 гады. Ён напісаў пісьмо Марыі Ільінічне Ульянавай, сястры Леніна, яна тады была загадчыцай Бюро скаргаў у Камісіі савецкага кантролю. І вось жа як бывае — звычайна са ссылкі ніколі нікуды пісьмы не даходзілі, а тут — проста цуд нейкі! — яго вызвалілі! Было гэта ў пачатку навучальнага 1939—40 года. Беларусь рыхтавалася да першай Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. Іосіф быў на дэкадзе, але сыграць яму не далі. Замест яго іграў Аркадзь Астрамецкі. У тым жа навучальным годзе ён быў адноўлены ў кансерваторыі і закончыў яе ў 1941 годзе. Пасля ўсяго гэтага нельга сказаць, што ў яго жыцці ўсё было гладка, аднак у канчатковым выніку сваёй працай і талентам ён даказаў усім ворагам на злосць, што смяецца той, хто смяецца апошні.**

Наступны дакумент, датаваны 13 мая 1959 г. за № 4/2130 і адрасаваны на імя Жыдовіча Антона Іосіфавіча, які ў той час са сваёй сям'ёй жыў у Маскве, заканчвае непрыемную старонку біяграфіі як народнага артыста СССР Іосіфа Жыновіча (Жыдовіча), так і ўсіх, хто з гонарам насіў і носіць прозвішча бацькі, дзеда, прадзеда...

**«Паведамляю, што Ваша скарга на няправільнасць асуджэння ў 1933 годзе Вашага бацькі — Жыдовіча Іосіфа Феліцыянавіча — разгледжана ў Пракуратуры БССР.**

**Справа, па якой у 1933 годзе быў асуджаны Ваш бацька, спынена Вярхоўным судом БССР 11 мая 1959 года. За атрыманне даведкі аб рэабілітацыі бацькі Вам трэба звярнуцца ў Вярхоўны суд БССР (г. Мінск, вул. Свярдлова, 18).**

**Нам. Начальніка<br>аддзела па нагляду<br>за следствам<br>ў органах дзяржбяспекі<br>Саветнік юстыцыі<br>Бялінскі».**

У той жа дзень, як Антон Жыдовіч атрымаў доўгачаканы дакумент, з Масквы ў Мінск ужо ляцеў ліст:

**«г. Мінск, БССР<br>пр. Сталіна, 19, кв. 78<br>Жыновічу І. І.<br>15 мая 1959 года.<br>Дарагія мінчане!**

**Паведамляю Вам прыемную вестку. З прыкладзеных копій даведаецеся, у чым справа. Хоць мне давялося звяртацца ў суды і пракуратуру двойчы, вынік атрымаўся той, які і павінен быў быць. Праз 26 гадоў, а праўда ўсё-такі перамагла (...)**

**Ваш Антон».**

Усё ў тым жа зборніку Д. Жураўлёва «Кампазітары Савецкай Беларусі» ў артыкуле «Іосіф Жыновіч» пра ўсё гэта распавядаецца такім чынам: «З 1932 года ён пачынае сумяшчаць работу ў ансамблі з заняткамі ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, але з 1936 года перапыняе заняткі амаль на тры гады дзеля канцэртных выступленняў у Маскве, Калініне, Іванаве, Чалябінску, Архангельску, Волагдзе і іншых гарадах.

У 1938 годзе І. Жыновіч вяртаецца ў Мінск, робіцца канцэртмайстрам аркестра беларускіх народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, зноў пачынае займацца ў кансерваторыі і ў 1941 годзе заканчвае яе па класе народных інструментаў».

Самае дзіўнае, што і ў навейшым выданні зборніка (1978 год), «папраўленым і дапоўненым», не зменена па сутнасці ніводнага радка ў біяграфіі Жыновіча, звязанай з драматычнымі падзеямі 30-х. Зноў жа: «Амаль на тры гады перарывае заняткі дзеля канцэртных выступленняў...» Аднак цяпер мы ведаем, што было ў сапраўднасці.

**Арнольд ДЫБЧА.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Якімі былі тыя тры гады ў біяграфіі Іосіфа Жыновіча? Гэтае пытанне ўсё ж застаецца без адказу. Наш сталы аўтар А. Дыбча, правёўшы пільны пошук, не знайшоў пакуль людзей, якія мелі дачыненне да арышту музыканта або былі з ім у ссылцы. Спадзяёмся, сённяшняя публікацыя дапаможа прадоўжыць пошук, і чытачы, якія могуць што-небудзь дадаць да надрукаванага, адгукнуцца, напішуць нам.**

## Яўген КРУПЕНЬКА



**4 лютага 1990 г. перастала біцца сэрца Яўгена Міхайлавіча Крупенькі — паэта, члена Саюза пісьменнікаў СССР.**

**Яўген Крупенька нарадзіўся 20 жніўня 1936 года на Магілёўшчыне ў вёсцы Саськаўка Шклоўскага раёна ў сялянскай сям'і. Там жа скончыў сярэднюю школу, працаваў у рэдакцыі шклоўскай раённай газеты «Чырвоны барацьбіт», служыў у радах Савецкай Арміі, затым зноў работа карэспандэнтам — у рэдакцыі газеты «За вяртанне на Радзіму», часопісаў «Блакнот агітатара», «Бярозка».**

**У 1965 годзе Яўген Крупенька паступае ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Пасля заканчэння працуе літкансультантам у «Чырвонай змене». Апошнія гады — на творчай працы.**

**Друкавацца пачаў у 1953 годзе. Выдаў кнігі «Салаўі», «Нядзеля», «Бусліны човен», «Малінавы год», «Колеры» і іншыя. Паэтычнае слова Яўгена Крупенькі — шчырае, ад зямлі, з яе колерамі, гукамі, з яе людзьмі. У ёй — і шчымлівая памяць ваеннага дзяцінства, і светлыя юнацкія летуценні, і трывожны подых нашага складанага веку.**

**Яўген Крупенька плённа працава[illegible] у галіне сатыры і гумару. Шмат кн[illegible] напісаў для дзяцей. І тут ён знаходзіў яркія, дасціпныя фарбы, па-народнаму сакавітыя і трапныя.**

**Вобраз паэта Яўгена Міхайлавіча Крупенькі назаўсёды захаваецца ў памяці тых, хто ведаў яго.**

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.**

## ДУМАЎ ПРА ЖЫЦЦЁ

**Няма Жэні, няма Яўгена Міхайлавіча Крупенькі...**

**Не хочацца верыць, што назаўсёды замоўк яго тэлефон, што Яўген ужо ніколі не пазвоніць сам і ў трубцы не пачуецца такое знаёмае: «Я напісаў новыя вершы. Паслухай».**

**А вершы пісаў ён, здаецца, усюды. І часцей за ўсё ў бальніцах, куды ў апошнія гады вельмі часта пачаў трапляць: у бакоўках хуткай дапамогі і кардыяцыйных навуковых цэнтрах, у пасляаперацыйных палатах і рэанімацыйных аддзяленнях на тумбачках каля яго ложка заўсёды ляжалі папкі з пачатымі вершамі.**

**Не ўмеў ён шанавацца, не ўмеў весці спакойнае жыццё хворага чалавека. Ён увесь быў скіраваны на творчасць, на дзейнасць, на волю.**

**Нават пасля чацвёртага інфаркта, як толькі яго перавялі з рэанімацыі, дзе паўтара сутак ён быў без прытомнасці, змагаўся за жыццё, уцёк [illegible] палаты, злавіў таксі і прыехаў у [illegible]юз пісьменнікаў — спяшаўся да л[illegible]дзей, да спраў, да сяброў.**

**Але пяты інфаркт не дазволіў здзейсніць планы і мары.**

**Дзіця вайны, вырасшы на камсе, адгоне і гнілой бульбе, перажыўшы холад, голад, нішчымніцу акупацыі і пасляваенных гадоў, ён так і не змог паруліцца пра сваё здароўе...**

**Працаваў Яўген Крупенька заўсёды шчыра, сумленна, апантана.**

**З самага юнацтва, калі я пазнаёміўся з ім, калі мы, раённыя журналісты, пехатою абыходзілі ўсю Шклоўшчыну, спрабавалі пісаць вершы і марылі пра высокую паэзію.**

**Талент і апантанасць — вось чым пазначана яго паэзія ад першага зборніка «Салаўі» і да апошняй кнігі «Гекзаметр баразны». А яго мастацкі пераклад «Слова аб палку Ігаравым», які, на вялікі жаль, да гэтага часу пакуль што не надрукаваны.**

**Ён любіў сваю маці і яна, здаецца, увасабляла для яго ўсё — паглядзіце, колькі вершаў прысвечана ёй!**

**Ён любіў родную зямлю і сумленна на ёй жыў.**

**Але яму не заўсёды было ўтульна між нас.**

**Дык няхай жа хоць зараз родная яго шклоўская зямля, любая яго сэрцу зямля Саськаўкі, дзе побач з маці Яўген Міхайлавіч пажадаў застацца назаўсёды, з ласкаю прыме яго да сябе, прытуліць і супакоіць свайго неспакойнага сына.**

**Янка СІПАКОЎ.**


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

# «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856<br>АТ 10175

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12<br>М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.